

Вясна. Набліжаецца Вялікдзень. Неўзабаве адпачну на ўлонках маці-прыроды. Раджу пайсці на асобнасьць кожнаму й гутарыць з ёю — скажа многа. З прыродай гаварыць трэба, з былінкай травіцы, з горкамі, з сыр-борам. Святыня людскімі рукамі пастаўлена, памагае нам маліцца, а праз малітву рабіць дабро людзям. Тым больш павінна гэтага дамагаць святыня Бога Жывога — Праўда ў цэлай красе сваёй і аздобе»

**Казімер Сваяк.** 1 красавіка 1911

Фота: Уладзімір Бліноў (Мінск)

## SUMMARY


**The magazine proclaims 2000 as the Year of Water and Forests for its readers and the general public**. It also mentions other important dates on the ecolo-gical calendar which could be equally good reasons to "green up" the Earth, make it brighter and cleaner, help Nature, and protest. *(pp 4-6)*

**The traditional burning off of dry grass in Spring is harmful to the countryside, and leads to severe consequences for biological diversity and landscape variation.** *(p7)*

The Salerno code of health (Regimen sanitatis Salernitanum) is a mine of "eternal recipes" and ancient rules of natural ethics. *(pp8-9)*

**The magazine's articles in defence of Belarusian natural spring water sources are supported by readers.** *(pp10-11)*

Doctor Aliaksej Mikulich challenges his collea-gues, stating that society's anti-human activities are not provoking the right reactions from the scientific community. *(pp13-14)*

**This issue's poetry anthology.** *(pp16-17)*

Europe - Our Common Heritage - participate in a photo competition. *(p18)*

**Notes On A Green Diskette or Testpieces**. (pp19-20)

Having our legislation unified with Russia will lead to fewer national environmental laws. *(p22)*

**Ancient chronicles have recorded numerous climatic and meteorological anomalies.** *(p23)*

Aachen in Germany hosted the Henry Ford Prize-winners' congress in 1999. Prize-winner and participant Valery Dranchuk (of the newspaper *Belavezhskaya Pushcha*) shares some of his impressions of the journey. *(pp27-29)*

***Children of the Earth*** **expedition participants report violations by state forest rangers.** *(p29)*






З любоўю да ўлоння

# Белавежская Пушча



№ 1 (22) 2000

**Аўтарская газета Валерыя Дранчука**

**Magazine edited and published by Valery Dranchuk**



**Беларускае прыродалюбнае асветна-публіцыстычнае выданне**



Белавежская Пушча

BIELAVIEZHSKAYA PUSHCHA
Magazine edited and published by Valery Dranchuk
**Motto: With a love for Mother Nature**
Contact: 220088, Miensk, Ivanauskaya st., 38-16,
Phone 8217 236-50-76, fax 220-23-53
E-mail: NPpushcha@irex.minsk.by

©прыродалюбная асветна-публіцыстычная беларуская газета **год выдання шосты** пасведчанне аб рэгістрацыі №125 ад 27.06.96

**Заснавальнік і рэдактар** Валеры Дранчук

**Макет, вёрстка** Валеры Дранчук, **карэктура** Уладзя Ляская.

**summary** Марк Бэнц, Аляксандра Годзіна

**Адрас для допісаў** 220088, Мінск, Іванаўская, 38-16 тэл.236-50-76, факс 220-23-53. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць пададзеных звестак

Падпісана ў друк 22.03.2000. Фармат 60x84 1/8. Наклад 2500 асобнікаў. Кошт дамоўны. Замова №850. Надрукавана ў друкарні выдавецтва **"Беларускі Дом друку"** (220013, Мінск, праспект Францішка Скарыны 79)



# Слова рэдактара

**С**ёння радасць мая не ў тым, што чытачы атрымалі абноўленае выданне газеты, хоць гэта ёсць выключнай выразнай падставай, а ў тым, што насуперак цяжкасцям яго ўдалося зладзіць. Што зроблены чарговы крок наперад, крок да прыродалюбнай Беларушчыны, да лёсу Бацькаўшчыны, яе вытокаў і лепшае, светлае явы, да вымоўнасці роднага ўлоння. Мы будзем называцца газетай, хоць атрыбуты фармату патрабуюць адпаведнага выкладу, бліжэй да часопіснага. Мы яшчэ не часопіс, але ўжо, бадай, не газета. Гэта пакуль што эксперымент, які мы творым разам: хто піша і хто чытае. Мы будзем арыентавацца на беларускае асветніцтва, на запаветы вялікіх настаўнікаў пачынаючы ад Скарыны, рабіць свой унёсак на ўзбагачэнне пачуццёвага пласту чалавечага стаўлення да Радзімы, яе багаццяў.

**М**ы ладзім ініцыятыўнае, дэмакратычнае выданне, якое не адно ўслаўляе, але і абараняе прыродныя каштоўнасці. Тут нас чакае вялікі абсяг працы. Часам, выходзячы ў родныя ваколіцы, дзе лес, рака, дарогі ды сцежкі, міжволі ўпадаеш у бязвер'е й сумнеў, што экалагічнае выхаванне ўвогуле ці было, сам-насам думаеш, што брацца трэба за ўсё з нуля — гэтулькі цёмнага раўнадушша, варварства, безуважнай нялітавасці да прыроды. І нават пры гэтым зусім недарэчы зазначаць мясцовасць, бо гэта не мае якіх-кольвек выразных межаў. Паўсюдная бязмежнасць.

**Н**е трэба вяртацца «ў пячору», але трэба вяртацца да хараства і гармоніі, ашчаднасці і трапяткога стаўлення да вытокаў, да чысціні асяродкаў.

**З** вясною Вас, чытачы! Няхай адпускае, цешыць і саграе Вас яе моц, яе неадольнасць, яе спагада.

**Валеры Дранчук**

**Г**азета «Белавежская пушча» --лаўрэат Еўрапейскай прэміі Генры Форда «За захаванне культурнай спадчыны і навакольнага асяроддзя» 1999

Літара «П», скарыстаная ў малюнку назвы газеты, ўзята з кнігі «Маляўнічая Расія. Літоўскае і Беларускае Палессе», 1882









# «Палітра *магчымасцяў* дужа багатая»

■ *Жадаем творча скарыстацца ёю дзеля мілага ўлоння Айчыны ўсім чытачам газеты*

***Каляндар года імкліва аддаляе нас ад пачатку, калі мы віншавалі адзін аднаго і жадалі новага шчасця. Выхад першага нумара дае нам нагоду на міг азірнуцца і ўдзячна перачытаць віншавальна-калядную пошту.***

**Б**ылі віншаванні — знак зычлівага стаўлення з боку шматлікіх прыхільнікаў, аўтараў і чытачоў; былі віншаванні -- сведчанні суперажывання і партнерскага салідаравання з намерамі газеты. Асобныя мы адклалі для «Кола».

«Зімовае, ды не лядовае» прывітанне прыйшло з украінскага горада Адэсы. **Алег Пятроў**, супрацоўнік мясцовага заапарка і наш даўні зычлівец-прыродалюб жадае, каб «Белавежская пушча» не ведала абставін, якія б вымушалі накідаць на сябе жальбу — нават у знак пратэсту, як гэта было прыканцы 1999 (маецца на ўвазе «БП» №6).

Сябры газеты з **Сенніцкай школы** Мінскага раёна ў асобе настаўніцы 4-а класа **Алены Пятроўны Шнаркевіч** жадаюць нам шчодрага багаславення, моцы духу і Вышэйшай аховы на ўсіх шляхах-дарогах. Сяброўства з газетай, пішуць яны, дае надзею, што экалагічныя катасрофы нас абмінуць, калі дзеля гэтага рабіць канкрэтныя захады, абуджаць людскую свядомасць.

Чытач і калега-прыродазаступнік **Алесь Зайцаў** з магілёўскай грамадскай суполкі **«Наасфера»** жадае верыць у лепшае, але быць рэалістамі. Гэтую веру ў лепшае ён звязвае з гуртаваннем сілаў і маючым адбыцца Экафорумам грамадскіх арганізацый, які вызначыць прыярытэты «зялёнай» чыннасці ў краіне з улікам сённяшняга стану Беларусі.

**Уладзіслаў Жыгалка** з Мінска адным з першых далучыў свой голас да пратэсту газеты з патрабаваннем спыніць здзірства на ахоўных тэрыторыях, вярнуць краіне былыя запаведнікі. З гэтай нагоды ён жадае нам матэрыяльнага дастатку і незалежнасці ў поглядах. Дай Бог Вам багацця, якое б мацавала Вашы магчымасці ў справе «зялёнага» выдавецтва, піша спадар Жыгалка. І не дай Бог «нірваны», тут жа засцерагаецца ён, што значыць «пустэча», а ў такім стане, маўляў, нічога не зробіш. Уладзіслаў замаўляе нам серыю інтэрв'ю з вучонымі замежных прыродаахоўных тэрыторый. Хацелася б параўнаць, піша ён, іхнія ўмовы з нашымі.

На адрас газеты Уладзіслаў даслаў колькі замежных экалагічных выданняў, якія, на яго думку, могуць прыдацца для зручнасці ў нашай працы і, так бы мовіць, у якасці пэўнага ўзору.

Наш даўні прыхільнік, настаўнік-экалагіст **Бернард Пакульніцкі** ў сваім лісце да рэдактара не ўтойвае радасці, «што няўрадавыя экалагічныя арганізацыі яшчэ існуюць». Рэч у тым, што сябры аргкамітэта беларуска-украінскага семінара «Шацк-2» даслалі яму чарговую інфармацыю. А яна абнадзейвае. «Я падтрымліваю прапанову рыхтаваць трэці «рэчкавы» семінар і сабрацца гэты раз на беларускай зямлі. Трэба было б, на мой погляд, запрасіць да ўдзелу і сяброў з Польшчы», — раіць Бернард. Цікава было таксама дазнацца, што ў планах Бернарда на бліжэйшыя вясну-лета: «Пачаў працаваць над праектам «Школьны экалагічны маніторынг водных сістэмаў», — піша ён. — Для палявых даследванняў выбраў рэчку Малінаўку (Вялікі Перакоп) у Мядзельскім раёне (басейн Віліі) даўжынёй 40-45 кіламетраў, якая ўпадае ў возера Свір, а выцякае з балотаў каля возера Швакшты Віцебскай вобласці. Палітра магчымасцяў дужа багатая.»

Багатай палітры магчымасцяў і здзяйснення добрых намераў дзеля айчыннага ўлоння мы зычым усім, хто такія намеры трымае. Чакаем новых лістоў і вестак.

АрСтудыя «Краявід»

**«Вельмі неспакойна на душы, калі бачу, як штодзень дзесяткі лесавозаў вязуць лес. Гэта ўжо доўжыцца не дзень і не два, а больш за год. На лесанарыхтоўку кінуты вялікія сілы і тэхніка»**

**Рубрыка «Кола»**
**ст. 21**

# Браткі беларусы!

***Вясна на падворках...***

Вітайце буслоў, што вярнуліся
ў край наш, лясны ды азёрны,
да роднае хаты,
да мілага ўлоння прыроды.

***Ладкуйце буслянкі.***

Цягніце на дрэвы, на вышы будынкаў
бароны ці колы з падводаў—
featured розна́ўсялякі прыдатны рыштунак.

***Хай ведаюць птахі:***

на гэтай зямлі іх заўсёды чакаюць.
Хай кожны, хто шчасця жадае
сабе і нашчадкам,

***саўе яго***

***разам.***

З любоўю да ўлоння!







# Возьмемся *разам!*

***Сёлетні Дзень Зямлі прыпадзе на суботу і стане завяршальным у рамках тыднёвай кампаніі на карысць прыроды і чалавека***



**Дзень Зямлі** адзначаецца трыццаць гадоў. Ягоны заснавальнік - амерыканец Гейлард Нэльсан за сваю ініцыятыву атрымаў прэзідэнцкі Медаль свабоды. **22**красавіка па традыцыі садзяць дрэвы. Але рахунак спраў значна больш. Галоўнае, каб улонкі беларускай зямлі ўквеціліся ды заяснелі сваім харастовм і прыбранасцю.

Злучым памкненні з ўсёй планетай
Адорым новым жыццём зямлю
Поўнай вадою
Чыстым паветрам

Злучым памкненні з ўсёй планетай
Уздымем лясы
Захаваем расліны
Аслонім жывое

Злучым памкненні з ўсёй планетай
Праславім мора
Паклонімся полю
Зоркам хвалу праспяваем

Злучым памкненні з ўсёй планетай
Адродзім людскую еднасць
Мір усталюем навечна
Дзецям падорым вясёлку

Злучым памкненні з ўсёй планетай
Мноства абліччаў знітуем
у шчырай любові
Возьмемся разам
і ўлонне зямное

заквецінца ў долах і высях
вернецца ў сілу
агорае ўпадак
знойку паўстане

**З Праграмы Сусветнага дня абароны навакольнага асяроддзя, якая стала гімнам-дэвізам агульных дзеянняў чалавецтва на зберажэнне планеты**

## *Кусцік ядлоўцу*

*Я хачу распавесці пра ядловец — сціплы, але адметны кусцік нашага лесу. Праўда, расце ён у нас на дачы. Мы пасадзілі яго з татам гадоў пяць таму.*

*Было гэта так. Гуляючы ў лесе, мы ўбачылі сярод елак зусім яшчэ кволае дрэўца ядлоўцу з пажоўклымі галінкамі ў кроне. Мне стала яго шкада. У бутэльцы заставалася вада, якую мы бралі з сабой, і я паліла куст.*

*Тата расказваў, што ядловец вельмі добра ачышчае паветра. Таму я прапанавала перасадзіць дрэўца на дачы.*

*Мы схадзілі па рыдлёўку і выбралі ўдалае месца — сонечнае, адкрытае, побач з дамком.*

*І вось мы прынеслі кусцік з лесу. Выкапалі ямку, паклалі гною, налілі вады і пасадзілі. Кусцік яшчэ доўга хварэў, але я палівала яго кожную суботу, адразу як прыязджала.*

*І кусцік ажыў! Выпусціў новыя адвойчыкі. Яны былі свежазялёныя і яшчэ не калолі руку.*

*Цяпер гэта ўжо статны куст вышынёй за два метры. Пад восень на ім сінеюць прыгожыя ягады.*

*Мы ўсе яго любім і песцім. Гэта памяць пра нашага тату, бо тата вучыў шанаваць прыроду, а ядлоўцавы куст быў яго найлюбімай раслінай на дачы.*

*Я веру, што чалавек, які садзіць дрэва, робіцца шчаслівейшы і дабрэе душой. Дрэва ці куст, калі вырастаюць, робяць прыгожай зямлю і чыстым паветра.*

**Наталля Папчынская,**
**Гродна, СШ №2, 7 «А» клас**

(Літаратурны конкурс «Экалогія зямлі — экалогія душы» сярод школьнікаў Беларусі. **Прызавое месца**).

## Каляндар 2000

**22 сакавіка**
Сусветны дзень вады

**23 сакавіка**
Сусветны метэаралагічны дзень

**1 красавіка**
Міжнародны дзень птушак

**22 красавіка**
Дзень зямлі

**26 красавіка**
Дзень памяці ахвяраў радыяцыйных катастроф

**5 чэрвеня**
Сусветны дзень аховы навакольнага асяроддзя

**17 чэрвеня**
Сусветны дзень па барацьбе з апустыньваннем і засушшам

*Працяг на ст.14*

Усім, хто жадае змяніць жыццё да лепшага, могуць з карысцю прыдацца гэтыя даты і дні — як падстава паспрыяць экалагічнаму руху, скарыстаць іх з мэтай прапаганды, лабіравання «зялёнай» ідэі. Абвестка, даклад, пікет, урок, прэм'ера — дабор магчымасцяў залежыць ад кожнага канкрэтнага выпадку і канкрэтнай пазіцыі. Адным словам, плануйце, рыхтуйцеся.

 З любоўю да ўлоння



**Газета «Белавежская пушча» абвяшчае для сваіх чытачоў і шырокай грамадскасці 2000 год Годам вады і лесу.**

Працяг тэмы на старонках 10,21,22,29



АрСтудыя «Краявід»





**Асаблівая ўвага будзе нададзена водна-лясной тэматыцы, з'явяцца новыя матэрыялы ў рубрыках «Лес-лёс», «Кантрапункт», «Кліч Касандры», «Права veto» і інш. Спадзяёмся, і кола нашых чытачоў заабавязуецца на ўдзел у супольнай акцыі, сплануе і зробіць штосьці пасільнае для водных крыніц і лесу. Пішыце і паведамляйце пра свае справы, праекты, здзейсненыя задумы. З задавальненнем прымем слушныя падказкі для сяброў, каб пашырыць досвед Года.**





Фота:
Аляксандр Гутоўскі,
Аляксандр Мацюш,
Аляксандр Урбановіч,
Валеры Дранчук








# Пакінем *запалкі* дома!

*Традыцыя вясновых падпальванняў нясе трывожную ноту чалавечай граховунасці ў прыродзе*




Вясна, кажуць, ёсць абуджэнне нашых душ. Свет прыроды і чалавек як ніколі адзіныя ў гэты час. Здавалася б, што можа перашкодзіць іх лучнасці? Кожную вясну бачу і сведчу з болем: дзе толькі-толькі падсохла на сонцы леташняя трава, там займаецца полымя, вычарняючы і выпальваючы зямлю. Быццам хтосьці нябачны шчыруе з палаючым ветахам, ледзь паспяваючы ўсюды; дзе толькі можна. Вынік спусташальны. Збядняецца раслінны покрыў. Глеба губляе гумус. Выгараюць гнёзды птушак, матылёў, мошак. Гараць гаі, падлескі, лясы. Дым атручвае наваколле. Асмаленая зямля траўміруе душы людзей... За кожным такім падпальваннем – людская рука, чырканне запалкай ці шчоўканне запальнічкай. Хто асмеліўся гэта зрабіць, відаць, ведаў, што чыніць благое. Нават калі гэта падлетак.

Пускаючы агонь, кожны інтуітыўна, на генным узроўні адчувае трывогу. Але, магчыма, не кожны (тым больш, падлетак) усведамляе, у якога монстра-знішчальніка перакідваецца падчас прагны язычок выбаўленага агню. У якое страшнае і жорсткае войска ператвараецца вогненны "салдацік" з дзіцячай далоні. Падпальшчык часта не бачыць наступстваў і маштабнасці сваёго ўчынка. Я бачыў і сведчу пра тое, як на некалькі кіламетраў , сягаючы метровай вышыні, цягнуўся пасак агню побач з аўтатрасай і пераймаць яго беглі старыя нямоглыя жанчыны з бліжэйшых хутароў...

На жаль, традыцыя вясновых запальванняў нясе трывожную ноту, памнажаючы рахункі чалавечай грахоўнасці ў прыродзе. Можа, досыць. Асцеражомся. Яшчэ не дайшлі да апошняй мяжы, і ў душах жыве надзея. Там, дзе ёсць сям"я, там, дзе ёсць школа, там, дзе ёсць грамадства, знойдзецца і СЛОВА ПЕРАСЦЯРОГІ. Мы павінны асцерагчыся, пераадолець спакусу шкоднай прывычкі, асланіць светлы воблік прыроды ад бяздушнасці і гвалту. Калі не пашкадуем дом жаўранка ці курапаткі, не злітуемся перад кволымі сялібамі матылёў і кузурак, мушак і мошак, не пакінем у спакоі ціхія куточкі безабароннай прыроды — хто і калі пашкадуе нас, такіх бязлітасных і жорсткіх?

Давайце задумаемся: ці варта ставіць падножку прыродзе, калі ёй і так цяжка несці непамерны громазд чалавечага гаспадарання? І давайце не даўраць інертнай наіўнасці, што праблему вырашыць які-небудзь чарговы указ альбо кіраўніцкая дырэктыва. Дырэктыва такая ёсць:

***"Пакінем запалкі дома!"***

**Дзедзіч**




**Асмаленая зямля ў Дзяржынскім раёне Мінскай вобласці (чыгуначны адхон каля станцыі «Пціч»). Сакавік, 1999
Фота: Цімафей Дранчук (АрСтудыя «Краявід»)**

# Школа *Салернская* так караля навучала...



■ *З гісторыі вечных рэцэптаў*

Салернскі кодэкс здароўя напісаны ў пачатку чатырнаццатага стагоддзя філосафам і лекарам Арнольдам з Віламовы.

Звестак пра старажытны Салерн, што праславіўся ў свеце адметнаю школай здароўя, увогуле, захавалася небагата. Размешчаны ў глыбіні Пестанскай затокі (Кампанія), ён удаваў сабой раскошны куточак накшталт курорта, перад якім схіляліся ў пашане самыя знакамітыя людзі эпохі Рымскай імперыі. Значна раней, у IX стагоддзі тут існавала карпарацыя медыкаў з навучаннем лекарскаму мастацтву. Лепшыя традыцыі антычнай медыцыны знаходзілі тут сваё ўвасабленне і росквіт. Школа зрабілася буйным медычным асяродкам Еўропы. Сярод вучоных людзей былі і жанчыны. Усе, хто шчыраваў на карысць школы, вызваляліся ад дзяржаўных падаткаў, іх дзейнасць заахвочвалася. Арнольд з Віланoвы, слынны лекар сярэднявечча, родам з Іспаніі, так зацікавіўся працамі школы, што, спасцігнуўшы іх дасканала, выклаў у вершах. Так нарадзіўся «Regimen sanitatis Salernitanum» — помнік тысячагадовага існавання салернскай школы, рэцэпты якой застаюцца сучаснымі і сёння. Спадчына Салерна захавала не толькі медычныя актуаліі. «Цешся з паветра, шануй чысціню і празрыстасць яго, жыццядайнасць...» — гэта ўжо вострасучасна, урок XX стагоддзя і рэцэпт нашага супольнага выжывання ў наступным XXI стагоддзі.

Гравюра са знакамітага Салернскага кодэкса здароўя, на якой бачым «палаты» сярэдневяковай лякарні.



*Мяркуйце пра сваё здароўе па тым, як вы цешыцеся раніцы і вясне.*

**Генры Дэвід Тора**









## *Зранку скіруй свой погляд на гару, а пад вечар позірк спыні на вадзе*



***Школа салернская так караля англічан настаўляла:***
***Хочаш здароўе вярнуць, ягамосць, і не ведаць хваробаў,***
***Цяжар турботаў адпрэч, прагані сердаванні,***
***Скромна абедай, забудзь пра віно***
***І заўсёды ўважай, што пад'еўшы***
***Лепш заставацца бадзёрым, чым сон напускаць і дрымоту.***
***Доўга мачу не трымай і не тужся на стуле.***
***Будзеш за гэтым сачыць, пражывеш ты на свеце нямала***
***А калі што, дык няхай дактарамі тваімі***
***Стануцца трое: вясёлы характар, спакой, памяркоўнасць у ежы.***
***Рукі і вочы халоднай вадой спаласні пасля ночы.***
***Цела сваё ўстрапяні, пахадзі ўзад і ўперад.***
***Выцягні члены свае, але так, каб аж соладка стала***
***Ў мышцах і жылах. Затым прычашыся,***
***Зубы пачысці. Ды ведай пры гэтым:***
***Тое, што робіш ты, разуму моц дадае***
***І сілкуе астатнія члены.***
***Ванну зрабі. А паеўшы, альбо пахадзі,***
***Альбо проста пастой. Але бойся ўстудзіцца.***
***Гладзь люстраная крыніцы, трава —***
***Для вачэй найвялікшая слодач;***
***Зранку скіруй свой пагляд на гару, а пад вечар***
***Позірк спыні на вадзе.***
***Цешся з паветра, шануй чысціню і празрыстасць***
***Яго, жыццядайнасць. Няхай не зазнае яно***
***Ані яду заразы якой, ані паху смуроднай клаакі.***

*Працяг у наступным нумары*

### Вазьмі з паклонам...

**Маска з лісцяў маладой бярозы**

Малую (чайную) лыжку здробненых лісцяў заліце чвэрцю шклянкі крутога кіпеню. Калі ўзвар пастаіць паўтары-дзве гадзіны, працадзіце яго, а затым сталовую лыжку гэтага цёплага настою дабаўце ў крэм для сухой скуры, калі няма — у сметанковае масла або маргарын, і далікатным чынам, нягуста памажце твар. Маска вельмі «да твару» тым, у каго сухая і нармальная скура.



2 Зак. 850

# Крыніцы чакаюць нашай *ахвярнай* апекі

*■ Артыкул А.Голубева «Вада жывая, святая» знаходзіць гарачы водгук*




Крыніца ў Полацкім раёне блізу возера Гомель.

Фота: Юры Мухін

Апошні нумар «Белавежскай пушчы» і парадаваў, і ўсхваляваў мяне грунтоўнай публікацыяй пра крыніцы. Парадаваў любоўнай увагаю аўтара да адвечнай красы і чысціні беларускай зямлі — крынічнай вады. Напраўду, яна — жывая, святая… Люба-дорага чытаць і захапляцца. Аднак услед за аўтарам пачынаеш хутка ўсведамляць - - трэба спяшацца ўзяць на ўлік і асланіць ацалелыя крыніцы, бо засталося іх мала, а пагрозаў іхняму існаванню — вялікае мноства. Усё ўлічылі, усё апісалі, а гэтага не зрабілі. Агледзеліся — няма Кадастра. Няма — дык давайце нешта рабіць, каб ён быў!

Крыніцы — гэта тыя вытокі, з якіх пачынаюцца, а потым сілкуюцца нашы рэкі. Калі б раней, гадоў 35-40 таму, крыніцы былі ўзятыя пад ахову, мы не страцілі б сотні і тысячы маленькіх рачулак. Тым часам услед за малымі можам згубіць і вялікія рэкі. Напрыклад, хто памятае, якім глыбокім быў Нёман гадоў 40 назад, той словы мае прыме з належнаю ўвагай. Бо што сталася з Нёманам сёння? У раёне маіх родных Стоўбцаў ён да таго абмялеў, што гусі пераходзяць яго з берага на бераг не намачыўшы пяра. Ніжэй, каля горада Масты, Нёман, здавалася б, куды лепшы — шырэйшы, глыбейшы, аднак і тут ён кругом плыткі, хоць і шырокі.

Адбылося гэта з вялікай ракою за апошнія сорак гадоў, на вачах аднаго пакалення. З той самай ракою, якая заўсёды была перашкодай на шляху ўсіх, лічы, захопніцкіх войскаў. Якія гарачыя, смяротныя баі ішлі за масты праз раку!..

І гэта, на жаль, адбываецца з усімі беларускімі рэкамі. Губляем, губляем мы рэкі Беларусі! А яны ж — як тыя крывяносныя сасуды на нашай руцэ. Высахне сасудзік — засохне й рука, сканае жыццё.

Спрабую прагназаваць: што будзе з рэкамі праз жыццё яшчэ аднаго-двух пакаленняў? Штучнымі вадасховішчамі нашчадкі папоўняць хіба што запасы застойнай вады.

Газета «Белавежская пушча» ўсё больш настойліва спрабуе даклікацца людской адказнасці за лёс прыродных каштоўнасцяў (ужываючы слова «каштоўнасці», баюся, каб незнарок яго не зацерці). Усім, хто трывожыцца за лёс нашай Бацькаўшчыны, хачу разам з аўтарам А.Голубевым данесці сваё хваляванне і просьбу: бярыцеся за складанне вопісу-кадастра беларускіх крыніц, пра якія вы ведаеце. Пачнем выратоўваць крыніцы — вытокі рэчак, азёраў — выратуем і сябе, сваю зямлю.

**Прапаную ўзор (варыянт) апісання пашпартных звестак пра крыніцу.**

1. Дата апісання;
2. Месца, дзе знаходзіцца крыніца:
   - вобласць, раён, сельскі савет і, магчыма, калгас;
   - як гэта далёка ад бліжэйшай вёскі ці хутара; у якім накірунку;
   - мясцовая назва крыніцы альбо ўрочышча, дзе яна знаходзіцца;
   - больш падрабязна апішыце месца: у лесе, у чыстым полі, у кустах, у балоце, на беразе ракі ці возера;
   - якую раку (рэчку) альбо возера яна сілкуе;
   - калі зможаце, намалюйце план размяшчэння крыніцы.
3. Апісанне знешняга выгляду крыніцы:
   - дыяметр і глыбіня калодзежа;
   - шырыня і глыбіня вадатоку;
   - характар дна (пясок, гліна, камень, торф і інш.);
   - сталая ці перасыхае ў час засушша.
4. Фатаграфія крыніцы (калі ёсць такая магчымасць);
5. Знешні аналіз вады:
   - чыстая;
   - мутнаватая;
   - ці мае колер, пах, якая на смак.
6. Ці стаіць каля крыніцы якая памятка, ахоўны знак; ці ёсць прыкметы добраўпарадкавання крыніцы.
7. Што расказваюць пра крыніцу мясцовыя жыхары (легенды, гісторыя паходжання, іншыя сведчанні).
8. Хто склаў пашпарт крыніцы:
   - імя і прозвішча;
   - адрас.

Прапанаваны варыянт-мінімум скіраваны на тое, каб не прапусціць самае важнае, але не абмяжоўвае і іншых звестак, якія могуць быць пададзены звыш.

Хацелася б, каб дзіцячыя турыстычныя клубы, секцыі «зялёных» і ўсе «дзеці прыроды», хто хоча ўратаваць зямлю Беларусі, узяліся за працу ўжо гэтым летам, і менавіта цяпер, зараз жа вызначылі тэрыторыю даследвання, склалі маршрут, шмат пра што дапыталіся загадзя. Крыніцы чакаюць нашай любнай ахвярнай апекі.

**Аляксандр Гутоўскі,**
экатурыст з 15-гадовым стажам,
сталы чытач газеты «Белавежская пушча», Мінск

Лісты-апісанні шліце на адрас рэдакцыі

**Post-scriptum** *З ранейшых публікацый газеты запомніліся таксама цудоўныя радкі праграмы сусветнага Дня зямлі: «Злучым памкненні з усёй планетай, адорым новым жыццём зямлю — поўнай вадою, чыстым паветрам». Хораша, ёміста сказана! Я паспрабаваў хоць часткова праілюстраваць гэтыя словы, каб данесці сваё ўяўленне пра «поўную ваду» Беларусі. Здымак адносіць мяне ў недалёкую па часе вандроўку водным шляхам. Гэта Віцебшчына, чысты крынічны край, асабліва там, куды не дайшлі каналакапальнікі ад «меліярацыі». Фотакадр зроблены з борта «зачараванай» байдаркі. Ледзь пагойдваючыся, яна закружылася на глыбокай ды поўнай вадзе, а навокал нас былі не проста вада і не проста паветра, а спрадвечная краса Беларусі — яе прырода.*

**А.Г.**

Фота: Аляксандр Гутоўскі
(АрСтудыя «Краявід»)

Ахова і выкарыстанне крыніц.
Артыкул 74 Закона аб водным рэжыме Рэспублікі Беларусь

Крыніцы (выйсці падземнай вады на паверхню) ахоўваюцца тым жа самым парадкам, што ўстаноўлены і для аховы малых рэк.

Крыніцы, якія маюць асаблівую прыродаахоўную, навуковую і (або) культурную ці іншую каштоўнасць, абвяшчаюцца помнікамі прыроды рэспубліканскага ці мясцовага значэння з наданнем ім рэжыму аховы, прадугледжанага заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Крыніцы могуць выкарыстоўвацца для рэкрэацыйных, навуковых, лекарскіх, пазнавальных мэтаў і для ўзяцця невялікай колькасці вады.

Любая гаспадарчая або іншая дзейнасць, здольная знішчыць, пашкодзіць альбо змяніць захаваныя натуральныя крыніцы, не дазваляецца.

# Знайдзіце ў песнях *сваю* Беларусь!

*Пачуйце ў іх водгалас роднай зямлі, мелодыю ніў, лясоў, краявідаў*



***Новая рубрыка*** ў нашых старонках распачынаецца песняй, якую ведаюць вельмі многія. Калі не самі спявалі, дык чулі не раз. А яшчэ яе называюць ***«песняй, якую спявае Данчык»***. У звязку з гэтым наша падказка тым, хто ўсёй душою хацеў бы заспяваць песню (яна таго варта!), а мелодыя прызабылася. У такім разе раім набыць аўдыякасету са спевамі Данчыка. Не пашкадуеце. Толькі варта агледзецца ды запэўніцца, каб на ёй адначасна былі і выдатна праспяваныя любімым выканаўцам іншыя беларускія песні — ***«Белавежская пушча»*** (словы па-беларуску), ***«Мой родны кут»***, ***«Вы шуміце, бярозы»***, ***«Магутны Божа»***... У кожнай з іх водгалас роднай зямлі, яе гукавы першавобраз, мелодыя нашых ніў, лясоў, краявідаў.

Спявайце разам з вясною, спявайце заўсёды. Шукайце ў песнях сваю Беларусь — лірычную, вясёлую, незалежную, цнатлівую. Песенны покліч новай рубрыкі, вядома ж, застанецца ў нашых старонках і па вясне.

***А** ў полі вярба,*
*нахілёная.*
*А ў полі вярба,*
*нахілёная.*
*Маладая дзяўчыначка*
*заручоная.*
*Маладая дзяўчыначка*
*заручоная.*

***З**аручоная,*
*ды запітая,*
*Заручоная,*
*ды запітая.*
*Тады яе запівалі,*
*як сад зацвітаў.*
*Тады яе запівалі,*
*як сад зацвітаў.*

***Я**к сад зацвітаў,*
*як зара ўзышла.*
*Як сад зацвітаў,*
*як зара ўзышла.*
*Маладая дзяўчыначка*
*па ваду ішла.*
*Маладая дзяўчыначка*
*па ваду ішла.*

***К**ася ад вады,*
*Яся да вады,*
*Кася ад вады,*
*Яся да вады.*
*Пастой, пастой, мая Кася,*
*дай каню вады.*
*Пастой, пастой, мая Кася*
*дай каню вады*








# Хто фармуе *духоўную* экалагічную свядомасць

*Антыгуманная жыццядзейнасць грамадства не знаходзіць адпаведнага водгуку з боку вучоных*



***«Сучасная праблематыка экалагічных пытанняў патрабуе больш дасканалага гуманітарна-філасофскага грунту з шырокім грамадскім рэзанансам. Аднак у навуковым кантэксце пераважае мова эмпірыкі і тэхнакратыі»***

**Калі меркаваць па колькасці зладжаных семінараў, канферэнцый, форумаў, круглых сталоў, на якіх сёння абмяркоўваюцца пытанні экатэматыкі, грамадства, здавалася б, няспынна дабірае розуму й мудрай развагі, а з тым — і запасу трываласці. Аднак у практыцы «навукова-імпрэзавай» барацьбы за прыродныя каштоўнасці і ўстойлівае развіццё часта выпадае чыннік зваротнай сувязі: які след пакіне чарговы семінар ці канферэнцыя ў свядомасці людзей, ці паўплывае на экалагічныя паводзіны, светапогляд, культуру мыслення суб'ектаў грамадства, увогуле — што застанецца?**

**Доктар навук, эколаг і антраполаг Аляксей Мікуліч на прыкладзе адной з прыкметных у апошнім часе навуковых канферэнцый (ладзілася з ініцыятывы дзвюх Нацыянальных акадэмій -- Беларусі і Расіі) -- «Еўропа — наш агульны дом: экалагічныя аспекты» спрабуе прасачыць, наколькі зрэалізаванымі аказаліся гэтыя магчымасці.**

Местачковыя хаты на беразе возера Свір (Мядзельскі раён)
Фота: Аляксандр Гутоўскі



Біясфера Зямлі, не сакрэт, з кожным годам і нават днём траціць моц, занепадае, збядняецца з-за непамернага антрапагеннага ўціску. Нічога новага ў тым, што вырашаць праблему трэба праз іншыя канцэптуальныя падыходы. Патрэбны (лепш сказаць — мусяць быць запатрабаваныя), напрыклад, намаганні вучоных, пісьменнікаў, іншых творцаў, якія б здолелі істотна змяніць адносіны чалавека і грамадства да прыроды. На першы погляд, усё тут як быццам бы ясна: выхоўваць з калыскі павагу да ўсіх жывых істот, вучыць падлеткаў бараніць, аберагаць раслінны і жывёльны свет вакол сябе. Глядзіш, і норма экалагічных паводзінаў паступова, спакваля набудзе якасць, якую можна будзе назваць асаблівай з'явай культуры.

***«Вучоныя не спяшаюцца кранацца праблемы гуманізацыі экалагічнай палітыкі ў краіне і ўплываць на фармаванне новай духоўнай свядомасці людзей»***

Рэч у тым, аднак, што патрэбны не проста намаганні, а максімум намаганняў, максімум актыўнага і творчага дзеяння, каб памяняць арыенціры звыкласці і пабытовага разумення, каб на змену спажывецкай псіхалогіі ўрада і іншых уладных структур прыйшла палітыка падтрымкі гарманічных адносін прыроды і грамадства.

Задача ўскладняецца, калі трымаць на ўвазе р э а л ь н а с ц ь рэгламентацыі (часам скарачэння і згортвання) матэрыяльна-вытворчай дзейнасці чалавецтва як перадумовы ўстойлівага развіцця. Ускладняецца, бо патрабуе адказу: што зрабіць, каб захаваць навакольнае асяроддзе прыдатным для пражывання, і галоўнае — я к, праз я к і я канкрэтныя захады магчыма рэгламентаваць тую ці іншую дзейнасць?

Мой удзел у канферэнцыі «Еўропа — наш агульны дом: экалагічныя аспекты» (Мінск, снежань 1999), яе пленарных паседжаннях, круглых сталах і адкрытай дыскусіі дазволіў скласці досыць поўнае агульнае ўражанне пра чарговае мерапрыемства. Мушу горача канстатаваць несуцяшальнае назіранне: праблема, заяўленая для навуковай дыскусіі, была абмежавана пераважна тэхнакратычным падыходам да яе вырашэння. Сучасная праблематыка

6 жніўня Сусветны дзень дзеянняў супраць ядзернай зброі
16 верасня Міжнародны дзень аховы азонавага слою
20 верасня Дзень работнікаў лесу
29 верасня Сусветны дзень мора
4 кастрычніка Сусветны дзень жывёл
14 кастрычніка Міжнародны дзень па змяншэнні пагрозы стыхійных бедстваў
29 снежня Міжнародны дзень біялагічнай разнастайнасці



Кантрапункт у цэнтры беларускай сталіцы... Выгляд на тэрыторыю завода імя Кірава з набярэжнай Свіслачы.
Фота: Цімафей Дранчук (АрСтудыя «Краявід»)



экалагічных аспектаў патрабавала больш дасканалага філасофска-метадалагічнага грунту з наступным шырокім грамадскім рэзанансам.

Дакладамі пазначана шмат праблем, хоць іх наяўная прапарцыянальнасць далёка не аднолькавая. На жаль, аргкамітэт абмежаваў кола ўдзельнікаў, не запрасіў, у прыватнасці, сяброў з грамадскіх недзяржаўных арганізацый, што ўвогуле супярэчыць духу прынятай два гады таму Орхускай канвенцыі аб свабодным доступе да экалагічнай інфармацыі. Недахоп дакладаў па вострых надзённых пытаннях сучаснай экалагічнай сітуацыі часткова быў кампенсаваны работай Круглых сталоў. Самымі прадстаўнічымі па колькасці дакладчыкаў і верагоднай якасці іх даследванняў былі такія намінацыі як ахова зямлі і глебы, экалагічная бяспека, заканатворчасць і экаправа, ахова вады, ахова расліннага свету, экалагічная адукацыя, Чарнобыль і радыяэкалогія. Многія дакладчыкі сказалі пра недасканаласць сучасных тэхналогій прыродакарыстання, нарастанне экалагічнай рызыкі з-за старога абсталявання і зношанасці асноўных фондаў вытворчасці.

Можна ў падрабязнасцях спыніцца на дакладах, на сенсацыйных лічбах, якія ў іх называліся, прыводзіць тыя ці іншыя цікавыя звесткі, пра якія наўрад ці калі даведаюцца суайчыннікі, аднак за ўсім гэтым не развідніцца перспектыва экалагічнай адукацыі, не разгорнецца сучасны кантэкст выхавання экалагічных паводзін: якую якасць жыцця супрацьпаставіць гарацешнай перспектыве. Гаворка пра гэта папросту не ішла, бо пераважала зусім іншае — большасць дакладаў былі прасякнутыя сухой мовай эмпірыкі і тэхнакратыі. Падыход відавочны і, на жаль, вельмі характэрны. І ўжо не выклікае ніякіх сумненняў на гэтым фоне факт незапатрабаванасці шырокага кола грамадскіх экалагічных груповак. Экалагісты хутчэй за ўсё парушылі б ход гаворкі, бо лёс агульнага еўрапейскага Дому цікавіць іх па-свойму, іх мова больш адухоўленая і, як ні дзіўна, больш экстрэмальная ў адносінах альтэрнатывы. Магчыма, з гэтай прычыны арганізатары канферэнцыі і адсунулі ўбок тое, што наспела і вымагае дыскусіі, іншых слоў, грамадскага рэзанансу. Многія вучоныя, як сведчаць прыклады, не спяшаюцца кранаць пытанні гуманізацыі экалагічнай палітыкі ў краіне, уплываць на фармаванне адпаведных экалагічных каштоўнасцяў, новай духоўнай свядомасці людзей. Можа, не спяшаюцца таму, што і самім трэба «пазелянець», удасканаліць сваю свядомасць, гуманізавацца ў пытаннях, якія самі даследуюць.

З другога боку, тэндэнцыя і запанаваная практыка, якую яскрава адлюстравала і пацвердзіла канферэнцыя, абмяжоўваюць наяўныя магчымасці як навуковага корпусу нашай Нацыянальнай акадэміі, так і шырокай грамадскасці, шматлікіх патэнцыйных сяброў прыроды. Гэта, мяркую, не цывілізаваны шлях дапамогі Прыродзе і Чалавеку на карысць гарманічнага і ўстойлівага развіцця грамадства.

**Аляксей Мікуліч,**
доктар біялагічных навук, акадэмік Міжнародных акадэмій экалогіі і геранталогіі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі









# «Мной кіравала нейкая *вышшая сіла*»



■ *Фотамартыралог Аляксандра Урбановіча*

*«Праз колькі гадоў там было ўсё дазвання зруйнавана і пракладзена дарога, па якой мала хто цяпер ездзіць»*

Шаноўнае спадарства! Гэты раз я прапаную для «Белавежскай пушчы» ці не самае дарагое з таго, што ў мяне ёсць. Спадзяюся, рэдакцыя падзеліць маё меркаванне, што я толькі падступаюся да сапраўднай працы на карысць нашага з вамі выдання.

Здымак мае цалкам канкрэтную дату: 12 чэрвеня 1982 года. І цалкам канкрэтны адрас: Мінск, вуліца Барысаўская, 20. Тады я вучыўся ў БДУ на 3 і 4-м курсах і жыў тут на гэтым адрасе. Ужо як стаў жыхарам Гомля, прыехаў неяк у Мінск па справах. Цягнік прыходзіў а шостай раніцы, быў запас часу, і я, доўга не думаючы, вырашыў прагуляцца па тых мясцінах, дзе калісь пражываў. Балазе, гэта побач з вакзалам. Там ужо пачалося руйнаванне паасобных дамоў дзеля пракладкі аўтамабільнай трасы. «Мой» дом, на жаль, быў зруйнаваны, а суседскі яшчэ стаяў цэлы, і можна было свабодна ўвайсці ў двор, дзе ўраз ажылі дні майго ўніверсітэтскага юнацтва. Вось тут я зрабіў гэты кадр «Салютам» са штатным аб'ектывам.

Пэўна, маёй рукой кіравала тады нейкая вышшая сіла, бо гэты здымак — такая канцэнтрацыя маіх пачуццяў, мяне самога, якой мне шмат гадоў не ўдавалася дацягнуць у іншых работах. Не адзін раз прыходзіў ізноў на тое самае месца, ды ўсё марна. Не было таго асвятлення, не мог зноў знайсці тую самую кропку, той ракурс, не было яшчэ нечага, што не мае, відаць, і наймення...

Аляксанр Урбановіч,
Гомель



**Ад рэдакцыі.** *Шаноўны Аляксандр! «Меркаванне» Ваша падзяляем, хоць папярэднімі працамі таксама задаволены. Дзякуй! Здымак дарагі і нам, бо гэта яскравае сведчанне таго, што святла і зялёнага ўлоння вакол нас становіца менш ды менш, а шэрага асфальта-бетону... больш ды больш. Такі, на жаль, прагрэс...*


Фота: Валеры Дранчук (АрСтудыя «Краявід»)

**Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч**
(1808-1884)

З вершаванага апавядання
"Літаратурныя клопаты"

Мяне ўжо горад дражніць, там цяпер мне душна
Ад пыхі, зайздрасці, прымусу, крывадушша.
Сягоння вёска мне ўжо трэба ў кожным часе,
Яна мне ў памяці збалелай засталася.
Сумую я цяпер па хатцы той у лесе,
Па спеве птушак, па журчанні ручаіны,
Па сцежцы, што вяла праз саду зеляніны.
Там я ішоў бы побач з мілаю Алесяй
І пры канцы спыняўся б урачыста,
Шукаў бы купіны імшыстай…

**Ларыса Геніюш**

Аблокі

Абуджаецца родны край,
гладзяць косы вятры пералётныя.
Бохан хлеба, нібы каравай,
у ручнік матуля загортвае.

А птушыная скрозь мітусня!
Завушніцы на голлі бярозаў.
Урываецца ў смех вясна
з белых дрэў, зарунелых барознаў.

Так лагодна ў вільготных палёх
вецер гладзіць русыя косы.
Гнуцца травы пад пальцамі ног,
шчэ з вясны бялюсенькіх, босых.

Аблачыны-гускі плывуць,
з пуху белага, ўзвейна-лёгкія,
Так шчымліва ўзняць галаву —
адгалоскі слухаць далёкія.

**Людвіг Уланд**
(1787-1862)

Веру ў вясну*

Заспаны ветрык устае,
Як павучок, вясну снуе,
Абмацаў дрэвы, сцены.
О, цёплы подых! Спеў вясны!
Адрынь, душа, ліхія сны!
Бо прыйдуць, прыйдуць перамены.

Свет прыгажэе з кожным днём,
Шугае кветкавым агнём,
Іскрыцца — белапенны.
Што новы дзень нам прынясе?
Душа, забудзь пакуты ўсе!
Бо прыйдуць перамены.

**з нямецкай*



**Адам Русак**

Дываночак

Хадзілі дзяўчаты гаямі,
Хадзілі дзяўчаты лугамі,
Хадзілі ў даль палявую,
Збіралі красу веснавую.

Збіралі красу веснавую,
Шукалі крыніцу жывую.
Расцілі дзяўчаты ляночак
На новы дыван-дываночак.

Хадзілі дзяўчаты на горы,
Збіралі вячэрнія зоры,
Дыван каляровы снавалі,
Вясновымі зорамі ткалі.

Вясновымі зорамі ткалі,
Зайздросцілі, шчасця жадалі
Сяброўцы, што на дываночку
Стаяла у шлюбным вяночку.

**Яўген Шабан**
(1936-1982)

* * *

Я хачу вясны зялёнай,
песні раніцняй шпака,
я хачу вады сцюдзёнай
той,
што п'е з крыніц рака,
я хачу сяброў багата,
новых сцежак і дарог,
я хачу, каб наша хата
не пускала на парог
злосных, хіжых і лісліваых,
недаверлівых, ліхіх,
крывадушных і хлуслівых,
я хачу пражыць без іх,
а яшчэ хачу,
каб жыта
не знікала з нашых ніў,
каб усё,
што мной пражыта,
залічылася ў актыў,
каб ніхто не змог ніколі
планаваць бяду і смерць,
каб зрабіўся дужым
кволы,
стаў вятрыскам
люты смерч.
І каб гэты добры вецер
шамацеў у валасах,
каб спявалі гімны дзеці,
каб бялеў вэлюмам сад,
каб збіралі ў вуллі пчолы
неатручаны нектар,
каб быў светлы і вясёлы
роднай маці
родны твар.



***Анталогія***
***ў перакладзе з грэцкае мовы значыць букет кветак.***
***Старажытныя грэкі так называлі зборнікі выбраных твораў паэзіі***



**Мікола Гусоўскі**
(1480-1533)

Песня пра зубра
* * *

Нашы лясы — гэта наша скарбонка і свіран,
Наша камора жывіцы, і дзёгцю, і ягад,
Мёду і воску, куніцы і рознай дзічыны.
……………………………………………………
Безліч у пушчах і звера, і птушкі, а тыя
Дзіўныя пеўні, якіх апісаў яшчэ Пліній,
Плодзяцца ў нас, як вароны, пры кожнай імшары.
Мы іх глушцамі завём — самавітая птаха...

* * *

Бор паказаць абяцаў я — вось там асалода
Вашаму сэрцу і воку, усё першародства
Скарбаў прыроды, спрадвечнай яе прыгажосці:
Дрэў, не кранутых сякерай, і траў нестаптаных,
Безліч дзічыны і звера чароды на пашы.

**Аляксей Пысін**

* * *

Ёсць на свеце мой алень,
ёсць і гэткае маленне:
Будзь заўсёды у аленя
Цёмны мох і светлы дзень!

Вы, разумныя браты,
Я і сам страляць умею,
Дайце жыць майму аленю
Пад галінкай дабраты.

Вось у запішы лясоў
Ліст трапеча сцырванелы.
Можа, гэта страх аленя
Тут асінкаю ўзышоў.

Я іду, іду між дрэў
Па асінавай алеі.
Мне пабачыць бы аленя…
Зноў я чую блізкі стрэл.

# Еўропа - Беларусь:
## *агульная спадчына ў фотавобразах*

■ *Еўрапейскія ўзнагароды чакаюць пераможцаў*



Фота: Уладзімір Дацкевіч

***Рада Еўропы ладзіць адмысловы фотаконкурс і запрашае да ўдзелу ўсіх, хто творыць у гэтым жанры — прафесіяналаў і творцаў-аматараў***

Конкурс праводзіцца ў рамках Кампаніі «Еўропа, агульная спадчына» і цалкам адпавядае задачам і мэтам Кампаніі, перш-наперш:

* надаць увагі шырокага кола грамадскасці захаванню, рэгуляванню і ўладкаванню культурнай і прыроднай спадчыны;
* прадэманстраваць чалавечае вымярэнне спадчыны і яе ролі ў згуртаванні людзей;
* пашырыць і развіць пачуццё прыналежнасці да адзінай супольнасці праз выяўленне еўрапейскага ладу жыцця.

Маюцца на ўвазе вобразы, якія б адлюстроўвалі ўвесь спектр Кампаніі, сярод іх:

* архітэктурная спадчына (замкі, саборы, іншыя буйныя рэлігійныя збудаванні, універсітэты і г.д.),
* краявіды рознага кшталту (лясы, балоты, азёры, пашы, амбары, млыны, маякі і г.д.),
* спадчына бібліятэчных фондаў, іншых асяродкаў назапашвання ведаў, магчымасць засваення ведаў праз універсітэты,
* універсітэцкія, манастырскія, палацава-сядзібныя сады і паркі,
* калекцыі батанічных і заалагічных музеяў, пячораў, іншых каштоўных рэдкасцяў,
* турыстычная спадчына, падарожжы: гасцініцы, вакзалы, курорты, мясціны паломніцтва,
* рэгіянальныя прыродныя паркі, нацыянальныя паркі, прыродныя помнікі,
* вобразы ўсіх іншых форм еўрапейскай спадчыны: спартыўнай, музычнай, навукова-культурнай, фальклорнай ды іншай — як агульнай спадчыны ўсіх жыхароў Еўропы.

На конкурс дасылаецца не больш за тры фатаграфіі ад удзельніка, фармат 13x18 см, у каляровым варыянце, на фотапаперы, без аздаблення і без рамак. На абароце пазначце сваё прозвішча, назву працы, месца здымак і звесткі для кантактаў.

Журы конкурсу назаве лепшымі тыя працы, дзе тэма будзе раскрыта арыгінальна і па-майстэрску яскрава, прыгожа. ***Першая прэмія*** вызначана ў памеры 15000 французскіх франкаў, другая і трэцяя —10 і 5 тысячаў.

Усіх разам 50 прэмій.

Адправіць працу на конкурс будзе не позна да 31 траўня 2000 года (паводле паштовага штэмпеля) на адрас:

Conseil de l'Europe - Centre Naturopa - Concours photo- F - 67075 Strasbourg Cedex.

Вяртаючыся да тэмы фотаконкурсу, газета «Белавежская пушча» асабліва звяртае ўвагу фотамайстроў на тыя аб'екты (вобразы) прыродна-культурнай спадчыны Беларусі, якія застаюцца ў нас найменш «абжытымі», на тыя сцежкі, якія яшчэ «нявытаптаныя» большасцю. Каб натрафіць на еўрапейскую спадчыну, можна адпраўляцца ў Нясвіж, Браславы ці Мір, а можна, пашукаўшы, знайсці яе і ў ваколіцах роднага мястэчка ці ў гарадскіх кварталах недалёка ад дому. Усё залежыць ад таго, як разумець гэтае паняцце — еўрапейскі лад жыцця, і як уяўляць тыя вобразы, якія яго адлюстроўваюць. У гэтым звязку творчы конкурс, які распачынае Рада Еўропы, дае беларускім майстрам фатаграфіі шанец на асэнсаванне «спадчыннага» кантэксту. Ці будуць сярод пераможцаў імёны з Беларусі, мы дазнаемся прыканцы лета. А пакуль пажадаем натхнення і плёну. ■

АрСтудыя «Краявід»

Крошынскія могілкі знакамітыя тым, што на іх пахаваны адзін з пачынальнікаў беларускай літаратуры сялянскі каваль і паэт Паўлюк Багрым (1813-1891).

Баранавіцкі раён, станцыя Крошын.

Лета, 1999

Фота: Віталь Прошча

***Увага рэдакцыі:***

калі вы самі не займаецеся фатаграфіяй, але трымаеце на прыкмеце асобу фотамайстра, які стала здымае прыроду і які, на ваш погляд, выглядае на патэнцыйнага ўдзельніка конкурсу, звяжыцеся з ім і перадайце гэтую інфармацыю. Трэба ў рэшце рэшт браць узнагароды, уваскрашаць еўрапейскую Беларусь!







# Кволае *ззянне* гнілушак

■ *Адзін дзень, які засведчыў, што цуды адбываюцца, і ў свеце яшчэ жывуць вожыкі*



***Знаёмім з аўтарам***





***«Я ўзышоў да вялікага дуба, пастаяў каля яго агромніста-шырокага, нібы калона, ствала...».***

**Яраслаў Пятроўскі** вучыцца ў Гародні на эколага. На трэцім курсе універсітэта. Родам з Астраўца, з сям'і лесніка. Друкаваўся ў «Белавежскай пушчы». Апякуецца аб'ектамі, якія ўважае за помнікі прыроды. З ягонай ініцыятывы сёлета нададзены ахоўны статус дуброве ў Астравецкім раёне. Малайчына, Яраслаў. Што да жанру, у якім наш аўтар спрабуе пяро, з задавальненнем ставім Яраславу «залік», адзнаку няхай выстаўляе чытач.

Аднойчы, калі я з аднакласнікамі хадзіў «сустракаць світанак», мы нечакана ў цемры заўважылі кволае ззянне. Яно ішло ад кучы дроў, якія мы нанасілі і склалі днём. Мы ўзялі для гэтай мэты некалькі паваленых вольхаў, што ляжалі побач, — тады гэта былі звычайныя трухлявыя бярвенні. Цяпер жа, калі не было відаць нават пальцаў выцягнутай рукі, гнілушкі свяціліся чароўным святлом. Мы ўсе былі здзіўленыя і доўга "цешыліся" з маленькага начнога цуду. Калі расклалі вогнішча, блакітнае святло растала, і мы пра «ззянне» забыліся. На жаль, тады я не ўзяў з сабой ніводнай гнілушкі. Калі ж падчас летняй практыкі ў Гродна сказаў, што бачыў, як свецяцца альховыя шчэпкі, сябры не паверылі. Таму, прыехаўшы дадому, вырашыў знайсці доказы — схадзіць назбіраць гнілушак.

Былі апошнія дні жніўня. Днём ішоў дождж, але пад вечар перастаў. Я выйшаў а сёмай гадзіне і пакіраваў у бок Габздуля. Спачатку праз пералесак у пойме Лошы, потым - па лясістым схіле да вялікага дуба. Ішоў, падбіраючы з долу розныя шчэпкі, труху. На падыходзе да схілу давялося прайсці невялікі язык трыснягу, што ўдаваўся ў лес. Тут я быў прыемна ўражаны сустрэчай з чаротаўкамі. Ішоў па грудзі ў траве, а перада мной, быццам мышы, не падымаючыся вышэй трыснягу, у розныя бакі разляталіся шэра-карычневыя невялікія птушкі. Адна з іх паляцела перада мной, не вельмі хутка і не залятаючы далёка. Я спыніўся — і птушка села на сцябло трыснягу, ён нават мала зварухнуўся. Я зрабіў колькі крокаў — і чаротаўка пераляцела. У рэшце рэшт, я скараціў адлегласць да двух-трох метраў і ўжо добра бачыў невялікую птушку з прыгожым узорам цёмнага і светлага пер'я. Яна з цікаўнасцю паглядала на мяне - хто я і навошта зайшоў у яе балота? Пераглядаліся мы так нядоўга. Трыснёг рабіў зігзаг і канчаўся, а птушка неўзаметку знікла з вачэй.

Я ўзышоў да вялікага дуба, пастаяў каля яго агромніста-шырокага, нібы калона, ствала. Потым прайшоўся ўздоўж ліпаў, што сцяной акружалі хутар, і вярнуўся да поймы. За хутарам ляжыць поле. Не вельмі шырокае, яно раздзяляе лес і раку і далёка цягнецца паскам, мо, за вярсту. Гады чатыры таму тут быў выган. За хутарам пачынаецца і той самы поймавы пералесак, у якім мы ўпершыню пабачылі дзівосныя гнілушкі. З таго часу прайшоў год, але нават месца ад вогнішча цяжка было знайсці — усё зарасло хвашчом і травой. Але я ішоў не ў пералесак. За ім, на правым беразе Лошы цягнецца нешырокая галерэя дрэў. Да іх я і кіраваў. Раней быў "сляпы", не заўважаў натуральнай іхняй красы, а зараз збіраўся ўважліва агледзець, заўважыць адметныя новыя рысы, знайсці сярод дрэў найбольшыя і найкаштоўныя, якія заслугоўваюць асаблівай пашаны — быць помнікамі прыроды.

Сабраныя гнілушкі я склаў пад яблыняй за хутарам, каб ідучы назад завітаць на таемныя агеньчыкі, зноў падзівіцца на «ззянне». Тым часам пачынала змяркацца. Я ішоў між дубоў, елак, вольхаў і ліп, стараючыся накрэсліць для памяці агульны малюнак мясцовасці. Яліны прыспусцілі долу свае лапы-шатры, магутныя дубы

***Я ішоў між дубоў, елак, вольхаў і ліп, стараючыся накрэсліць для памяці агульны малюнак мясцовасці.***


Фота: Аляксандр Урбановіч

пераплялiся з ялiнам ды вольхамi. Некаторыя волаты — двайнiкi-трайнiкi — пачыналi засыхаць або ўжо цалкам засохлi — там, дзе бабры суцэльным кальцом абгрызлi кару, дрэва загiнула, iншыя былi пакалечаныя людзьмi. Вось вялiкi дуб-двайнiк— памiж ягоных камлёў выпалена скразная адтулiна. Хутка вецер адну частку зламаў, i дрэва ўпала ў ваду... Калi гэта бачыш, на сэрцы становiцца цяжка i нават жахлiва,— з якiмi сiламi гуляе чалавек! Якая вялiкая моц, вага парушана. Нiбы двое братоў-блiзнятаў, стаялi гэтыя дубы. Той, што застаўся, стаiць адзiн, бы ўвасабленне дакору. А вось парэштки раней паваленага дрэва, няйнакш, вялiкага дуба, ад якога засталася адна рудая пляма на доле.

Дайшоў да Бялькiшак (вёска ляжыць на левым беразе, на правы вядзе мост) i рушыў назад. Ужо сцямнела. Калi iшоў сюды завiдна, не адчуваў усяго, што зараз. Рухi прыроды даставалi слыху асаблiвай выразнасцю гукаў. Калi падыходзiў да дрэў, яны быццам ажывалi, пачыналi нешта шаптаць. Знайсцi "рацыянальнае" тлумачэнне гэтаму я не мог. Пачынаўся дождж? Яго не было. Абуджаўся вецер i гойдаў галiны — чаму толькi на гэтых дрэвах? Ды не, вецер быў — побач шумеў лес, а гэтыя гукi данос iлiся быццам звыш агульнага фону. Дрэвы, падобна, гаварылi са мной, а я не разумеў, аб чым. Пыталiся: "Хто тут ходзiць начным часам? Што трэба ад нас чалавеку?" А можа, скардзiлiся на гаротны лёс? Папярэджвалi аб нечым? Цi можа — усё гэта разам?!

Я iшоў уздоўж ракi. Па зiме ў гэтым месцы яна шырока разлiвалася, затапляючы амаль усю пойму, парослую трыснягом i чаротам. Гэтая разлегласць уваходзiла ў трохкiламетровую зону, дзе забаронена паляванне, таму тут даволi прытульна пачуваюць сябе розныя вадаплаўныя птушкi, дый не толькi яны. У качак якраз пачыналася "вячэрняя пераклiчка".

Рака рабiла паварот управа. Агiнаючы зараснiкi разназёлу, я збочыў на поле. Пакуль выбiўся на сцяжынку, зачапiўся за скiбу свежай раллi. I раптам… нiбы ў мяне за спiной хтосьцi завёў матацыкл. Я павярнуўся - нiкога не было, гукi адразу ж змоўклi. Глянуў пад ногi — што за нечаканая перашкода? У баразне ляжаў калючы камячок. Вожык. За год, якi я пражыў у Гароднi, я ўжо забыў, што на свеце ёсць вожыкi. Раней часта сустракаў iх на лясных сцежках, калi збiраў грыбы цi ягады. Радасць была i ад таго, што мае сустрэчныя, бывала, амаль не палохалiся; калi й замiралi, дык ненадоўга -- я заўсёды чакаў, калi яны "ажывуць". Вось i зараз вырашыў пачакаць… Нават хваляваўся — цi не пашкодзiў яму што, як зачапiўся, —з чаго б было так фырчэць? Сеў побач, i мяне зноў агарнулi начныя гукi. Шапталiся дрэвы, за спiной шумеў лес. Зрэдчас перакрыквалiся качкi. Адзiночныя крыкi пачыналiся нiжэй па цячэннi, насупраць мяне набiралi моцы i зацiхалi недзе каля Габздуля. Асобныя качкi— магчыма было яшчэ згледзець— пералятaлi з месца на месца. Журчэла рака. Раптам на верхавiну сухой ялiны, што стаяла ўбаку ад iншых дрэў, села нейкая птушка. У яе выразна безгаловым сiлуэце я пазнаў саву. Мяне разабрала цiкавасць — я сачыў начное жыццё прыроды. Вожык не варушыўся, я таксама. Качкi зацiхлi, нiбы пачулi драпежнiка. Так цягнулася колькi хвiлiн. Я занепакоiўся, чаму вожык не варушыцца, i — вельмi хацелася — узяў яго на рукi. У гэты час на вадзе пачулiся тры моцныя хлапкi. Я зiрнуў на ялiну — савы не было. Няўжо высачыла каго-небудзь i цяпер змагаецца са сваёй ахвярай? Я падбег да вады, але нiчога не заспеў. Калi вярнуўся на сцежку, убачыў, што вожык спрабуе пайсцi. Нарэшце набраўся смеласцi i рушыў у бок лесу. Я запалiў запалку, каб праверыць, цi не кульгае. Вожык упэўнена набiраў хуткасць. I зноў, як рэакцыя на мае рухi, прагучалi моцныя хлапкi. Цяпер iх было чатыры. Я не ведаў, што гэта. Хлапкi нагадвалi прыглушаныя стрэлы, але былi побач, на рацэ. Потым бацька мне патлумачыў, што гэта бабры, напалоханыя валтузнёю на беразе, ныралi пад ваду i папярэджвалi адзiн аднаго знакам трывогi.

Рушыў дахаты. У дарозе мяне агарнула самота, зрабiлася нават няўтульна. Але калi наблiзiўся да Габздуля — ён добра пазнаваўся па кронах лiп i дубоў — i нечакана ўбачыў агеньчык з вакна хаты, прыемна падумаў: колькi чалавек да мяне спяшалiся познiм часам на гэтае ўтульнае мiгценне, вяртаючыся дахаты, цi так, як я, праходзiлi побач. I як маляўнiча, дарэчна ўлiваюцца ў наш краявiд хутары, такiя як вось гэты. Яны — неад'емная частка беларускай прыроды. Праходзячы праз Габздульскi гаёк, падышоў да вялiкага дуба. Пад шатамi галiн было ўтульна, а тоўсты ствол быў цёплы. З супрацьлеглага берага, з лесапiлкi, свяцiў моцны лiхтар, i часам, гледзячы пад ногi, здавалася, што на неба выйшаў пасвяцiць мне дарогу месяц. Дахаты я дабраўся без прыгодаў. I хоць гнiлушкi ў той вечар не свяцiлiся (вiдаць, гэта залежыць ад вiльготнасцi альбо якой iншай прычыны), на душы было светла.





**В**ельмі неспакойна на душы, калі бачу, як штодзень дзесяткі лесавозаў вязуць лес. Гэта ўжо доўжыцца не дзень і не два, а больш за год. На лесанарыхтоўку кінуты вялікія сілы і тэхніка. Вельмі спяшаюцца ўзяць, выхапіць у прыроды. Цяпер ужо не я адзін, а многія людзі гэта заўважылі, бачаць, што нешта тут ненармальнае, нешта не так. Ідзе раскраданне і знішчэнне нацыянальных прыродных багаццяў Беларусі. Стварылі Нацыянальны парк — і як мага давай расцягваць апошняе, пакуль вароты не зачыніліся.

**Бернард Пакульніцкі,**
настаўнік,
В.Буйкі Мядзельскага раёна

**А**пошнія дзесяць гадоў я не памятаю, каб экалагічныя суполкі выяўлялі хоць якую волю да яднання. Ідэя з'езду беларускіх грамадскіх экалагічных арганізацый носіцца ў паветры мінімум тры гады, аднак, падаецца, тыя, хто яе выказваў, даўно пераскочылі ў іншы вагон і ўжо наўрад ці назад вернуцца.

Трэба, адным словам, пашыраць кантакты, ладзіць жывыя сувязі, актыўна стасавацца.

Без адпаведнай інфармацыйнай сеткі гэта немагчыма, бо дамаўляцца трэба хутка і ў аднасчассе. Упэўнены: пакуль не будзе наладжана сістэма інфармавання, паміж зялёнымі арганізацыямі ў межах Беларусі, паміж «сваімі» — не будзе і выніку. Інэрцыя трымае так моцна, што для зялёнага ўздыму патрэбна нешта істотнае і адчувальнае. Гэтым «істотным» можа быць Экафорум, узнаўленне інфармацыйных зялёных патокаў, адпаведных цэнтраў у абласцях і рэгіёнах.

На гэта ёсць і неблагая база: шматлікія арганізацыі паспелі нажыць электронную пошту, маюць доступ да Інтэрнету.

Геаграфічна ўдалым месцам правядзення «зялёнай тусоўкі» бачу горад Баранавічы, больш дакладна — мясцовы недзяржаўны тэхнікум, дзе ёсць сталы асяродак грамадскай экалагічнай дзейнасці і людзі здольныя ўзяць на сябе адказную ролю гаспадароў.

**Міхал Козел,**
незалежны экалагіст,
г. Тураў Жыткавіцкага раёна



## Відомец

Фота: Цімафей Дранчук (АрСтудыя «Краявід»)

**Н**е так даўно я дазналася з радыё пра надзвычай паэтычны вобраз-паданне, які тут жа занатавала ў вершы і прапаную для «Кола».

***Кожны год вясной у лесе***
***Кветкі-ландышы цвітуць***
***Жураўлінымі слязамі***
***У народзе іх завуць.***

***Плачуць птушкі, калі з выраю***
***Летучы за небакрай***
***Пазнаюць абшары мілыя,***
***Беларускі родны край.***

***І зямля, дзе слёзы падалі,***
***Прыбіраецца ў красу —***
***Там цвітуць, бялеюць ландышы,***
***Людзям радуюць душу.***

***А па леце, адлятаючы***
***За лясы, у іншы край,***
***Жураўлі зноў горка плачуць***
***Хоць ты слёзы іх збірай.***

***Барвяныя кроплі свецяцца***
***Там, дзе ландышы цвілі...***
***Пакідалі край-радзіму***
***З горкім сумам жураўлі.***

Я хацела б, каб чытачы «Белавежскай пушчы» таксама ўбачылі гэты прыгожы вобраз і каб на нашай роднай зямлі вечна зацвіталі ландышы, а ў небе курлыкалі жураўлі.

**Ніна Старавойт,**
Нясвіжскі раён,
станцыя Гарадзея

**Пра аўтара:** Ніна Сяргееўна Старавойт — чалавек складанага лёсу. Больш як дваццаць гадоў таму яна цалкам страціла зрок, але... набыла яго праз вершы, роднае слова, рукатворнасць. Рэдакцыя жадае ёй добрага здароўя, новых творчых удач і каляровых вышыванак. Лебедзі Вам ляцяць, нязломная Ніна Сяргееўна!

**У** нерушах Белавежскай пушчы мне пашчасціла пабываць двойчы. Сустрэчы з велічнай запаведнай прыродай пакінулі след на ўсё жыццё. Што не давялося ўбачыць у вальерах, дапоўнілі ўражанні ў музейных залах і на лясных сцяжынках. Калі ўдаецца набыць газету «Белавежская пушча», з задавальненнем чытаю матэрыялы, якія тут публікуюцца.

Сам я люблю прыроду, цікаўлюся зместам экалагічных артыкулаў, часам і сабе даю волю выказацца пад уражаннем убачанага. У наваколлі выспяваюць неардынарныя думкі, а высновамі роздуму хочацца падзяліцца з іншымі.

Лес — геніяльнае відовішча ў натуры. Яно радуе вока, цешыць слых, лечыць душу. У пагодлівы бязветраны дзень тут пануе ўрачыстая цішыня. Сонечныя промні бясшумна, адпаведна з законамі касмічнага кола абходзяць ствалы, вершаліны дрэў, то тут, то там выразняцца на зямлі. Уважлівы, няспешны наведвальнік па-свойму ўсё заўважыць і ацэніць.

Водар смалістага бору ўзбуджае кожную клетачку арганізма, надае чалавеку сілу. Вось бурштынавыя слязінкі на ствале, якія ў народзе завуцца жывіцай. Адно слоўка — жывіца — чаго варта! Колькі ў ім асацыяцый, лясных вобразаў.

Пах прыпрэлай лістоты чуецца ў вільготнае лета, бліжэй восені. Па ім улоўліваюцца грыбныя матывы, без якіх цяжка ўявіць сабе лес.

Быццам у казку запрашаюць імшаныя палянкі. Зялёным аксамітам лашчыць вока нерукатворны дыван. А дакранешся рукой — адчуеш спатольную прахалоду і мяккасць.

Часам не верыцца, што між чалавечай мітусні, якой, на жаль, запоўнены нашы будні, на свеце існуе такое дзівоснае, дасканалае да вытанчанасці люснае хараство, якое можа здарыцца толькі ў сне. На шчасце, гэта не сон, не фантазія, а ява — наш лес. Яго трэба шанаваць як самую дарагую нацыянальную спадчыну.

**Адам Грынкевіч,**
Стаўбцоўскі раён,
Новы Двор

**Падпіска** на газету «Белавежская пушча» прымаецца ва ўсіх паштовых аддзяленнях Беларусі. **Д**ругі нумар выйдзе ў чэрвені. **С**правіць падпіску можна (!) да канца красавіка. **Ч**ытайце н а ш а.

# Уніфікацыя заканадаўства: *што да чаго і навошта?*

*Дзяржаватворны працэс падмяняецца прывідна інтэграцыйным*



**Ліст**

***З кулуарных размоў дачуўся, што паралельна з беларуска-расейскай інтэграцыяй ідзе збліжэнне (прыроўніванне) экалагічнага заканадаўства дзвюх дзяржаў.***

***Што да чаго і навошта?***

***Я ведаю, напрыклад, наш беларускі Закон пра асабліва ахоўныя прыродныя тэрыторыі і аб'екты, звяртаўся да яго не адзін раз, магу лёгка арыентавацца на асобных артыкулах. Ці не адбудзецца замена беларускага Закона на расейскі?..***

**Аляксей Фядзюшка,**
студэнт, Магілёў

**...і каментар**

Спадар Аляксей, Вы як у ваду глядзелі. Адбудзецца менавіта тое, аб чым турбуецеся не толькі Вы, але й найбольш актыўная экалагічная грамадскасць. Новы закон ёсць рашэннем найперш палітычным (праўда, невядома якой дзяржавы). Не выключана, што за зменай заканадаўства паўстануць страты ў справе захавання беларускіх нерушаў. Пра гэта, у прыватнасці, сведчыць ужо так званы праект «зьмяненняў», дзе некаторыя моманты зрабіліся непазнавальныя. Рэдакцыя мае ў руках даведку-абгрунтаванне, у якой міністр Міхаіл Русы адзначае наступнае:

«... **у прыватнасці, законапраект разгледжаны з пункту погляду уніфікацыі беларускага і расійскага заканадаўства, у рамках саюза двух дзяржаў».**

І Вы, Аляксей, прыводзіце досыць важкі аргумент: мы мелі беларускі закон, які дзейнічаў пяць гадоў, але цяпер давядзецца «арыентавацца» на іншы. Гэта нельга назваць удасканаленнем справы — насамрэч тут шулерская палітыка і ў рэшце рэшт здача пазіцый, нацыянальных інтарэсаў. Яшчэ. Наколькі вядома «БП», праект закона ў вочы не бачылі на месцах, ва ўстановах прыродна-запаведных тэрыторый, у акадэмічных інстытутах, не кажучы пра якую-небудзь грамадскую экспертызу. Не бачылі, дарэчы, і некаторыя распрацоўшчыкі новай рэдакцыі беларускага Закона аб ААПТ. Іхні варыянт (распачаты ў 1998 і таму — без усялякіх «уніфікацый»), папросту кажучы, скінуты ў кош, бо «інтэграсты» стрымгалоў, не разбіраючы дарогі, паспяшаліся ў Маскву «уніфікавацца» пад тамтэйшае заканадаўства.

Усе гэтыя патужнасці па вялікім рахунку не маюць ніякай карысці для захавання нашых біялагічных багаццяў. Больш за тое. Калі называць рэчы сваімі імёнамі — гэта ў рэшце рэшт ёсць поўнай дарэмшчынай; чаго бракуе цяпер, дык найперш — паслядоўных дзеянняў на карысць выканання згаданага закона. Менавіта насуперак яго духу і літары нашы запаведныя мясціны (у тым ліку тыя, якія нібыта сталі ахоўнымі), становяцца паляўнічымі гаспадаркамі ды лесагандлёвымі фірмамі. Галовы чыноўнікаў гэтай галіны павернутыя не ў бок закона, а супраць яго.

Шматлікія палажэнні Закона аб асабліва ахоўных прыродных тэрыторыях патрабуюць грунтоўных каментарыяў, дадаткаў, якія б праяснялі і вытлумачвалі яго сутнасць, дабіраючы сэнсу. Але іх няма і не прадбачыцца. Дзяржаватворны працэс падмяняецца інтэграцыйным. Тут цяжка шукаць які-небудзь сэнс на бок Беларусі. Спадзе інтэграцыйная ліхаманка, і мы ўбачым, што — ані кроку наперад, трэба ізноў пачынаць спачатку. Ужо з якога «пункту погляду» — пакажа хіба час.

Працяг тэмы на старонцы **29**

**Геапалітыка і вясна.** Гэтыя паняцці ў сённяшняй Беларусі асацыятыўна зблiжаюцца...

Фотаздымак Цімафея Дранчука (АрСтудыя «Краявід»)









# «Снег выпаў *на Іллю*»

*XVI і XVII стагоддзі паводле старадаўніх летапісаў экстрэмальных умоў надвор'я, прыроды і клімату**



АрСтудыя «Краявід»

****Увага рэдакцыі звернута на тэрыторыі, у якія ўваходзіла альбо з якімі суседнічала Беларусь.***

***Папярэднія публікацыі глядзіце ў №№1(4) і 4(7) за 1997 год.***

Кулічок на «сваім» балоце.
Фота: Ігар Бышнёў («Ахова птушак Беларусі»)

## XVI

**1501** Дажджлівае лета і гэткая ж восень. «Лета было ўсё непагожае, буры вялікія, і харомы рвала і дрэвы з карэннем, а дажджы ішлі вялікія...»

**1503** Шмат дзе ў Еўропе дажджу не было чатыры месяцы запар

**1504** Спякота і засуха

**1506** «...у тую зіму быў вялікі паморак у Мінску і шмат дзе па ўсёй зямлі».

**1514** Надзвычай сцюжная зіма. Павымярзалі рэкі, і млыны спынілі ханду

**1524** Халодная і доўгая зіма: «... стаяла да Тройцына дня (15 траўня), і снег злез не ўвесь..."

У Вугоршчыне ў час землятрусу «ў зямлю праваліліся дамы і цэрквы»

**1528** 22 верасня выпаў снег на «дзве пядзі» і праляжаў паўтара месяца, а потым растаў

**1533** Сухое лета, «вялікае бяздожджа». Высахлі крыніцы і рэчкі, калодзежы і балоты

Мноства скаціны загінула «ад смагі воднай». Гарэлі лясы і мхі. Выгаралі сёлы. Было цёмна ад дыму

**1540** Зіма такая цёплая, што другі раз распусціліся ружы, а месцамі ў студзені зацвілі вішні

**1541** Палярнае ззянне 14 кастрычніка: «... чацвёра агністых людзей на агністых воблаках відаць былі»

**1542** Нашэсце навалачы: «... прыйшла саранча на Літоўскую зямлю, Ляуцкую* і каля Берасця, каля Пінска , і каля Менска і Свержана, і Кондавава, Івянца і паела жыта, і яравыя, і траву»

**1547** Пад Вільняй: «... на воблаках ноччу былі відаць воіны, якія вялі паміж сабой страшную бітву»

**1558** «Зіма была тады голая, без снегу, з Нараджэння Хрыстова»

**1571** «У месяцы лютым моцна грымела і бліскала, і год выдаўся неўраджайны»

**1573** Позняя вясна. Перад Тройцай (Сёмухай) па лёдзе людзі праходзілі са Швецыі ў Рэвель. Халоднае дажджлівае лета. І летам, і восенню сонца відаць не было.

**1585** У Літве: «...вялікія маланкі, градабой, засуха і замаразкі праз цэлае лета...»

**1588** 24 студзеня, у нядзелю, над Парыжам і ваколіцамі здарыўся нечуваны туман, такі густы й цёмны, што два чалавекі, ідучы побач, не бачылі адзін аднаго. «Знойдзена шмат мёртвых птушак»

У Літве ў студзені моцныя дажджы сагналі снег. Устанавілася вясновае на-

*...І здарыўся нечуваны туман, такі густы й цёмны, што два чалавекі, ідучы побач, не бачылі адзін аднаго.*

*назвы паводле збору летапісаў - *рэд.*



Мост цераз раку Ушу блізу вёскі Макашы Нясвіжскага раёна (парэшткі вадзянога млына). Брод. Жнівень, 1978. Фота: Віталь Прошча (АрСтудыя «Краявід»).

двор'е, і «пастухі пагналі на пашу стат-кі». Праз тры тыдні зноў вярнулася «зіма лютая...»

**1592** Ад буры пацярпела шмат лесу. Загінула вялікае мноства бортных дрэў «са пчоламі». На Пакровы лісце не апала, а дрэвы скрозь стаялі зялёныя, як вясной, «а на іншых дрэвах так і зімавала».

**1594** Год «быў мачлівы, бурлівы, сцюдзёны...»

**1597** Марозная і снежная зіма. На санях ездзілі да канца красавіка

**1599** Высокая паводка: «... была вялікая вада».

Вельмі мяккая і снежная зіма, снегу было «па грудзі чалавеку», дзе-нідзе папрэла азіміна. Лета дажджлівае, а 31 жніўня «марозам пабіла жыта і яравыя»

**1603-1604** Менск, Вільня, Ворша і інш. Дужа халодная вясна, маразы трымаліся аж да канца красавіка. Лета сухое, гарачае. Дождж быў «толькі ў пачатку чэрвеня, у дзесятую пятніцу, а на Іллю выпаў снег...». Ад 26 ліста-пада да 6 студзеня былі маразы і завеі, затым часта змяняліся дажджамі і галалёдзівам... Ураджай выдаўся «добры, умолісты»

**1605** Беларусь, Смаленскі край: «Вясна была добрая». Снег «сагнала» як бачыш... «летам сухасць была вель-мі... а дажджу мала бывала»

**1614** ... Ураганам паламала сады ў Барысаве і Плужным і ў іншых сёлах, разнесла шмат копаў сена, а людзей, якія рабілі ў полі, «насіла вышэй дрэваў. Іншых мёртвымі пазнаходзілі». Хто ўхапіўся за дрэвы ды «з усёй сілы» трымаўся, застаўся жывы. «А іншыя на полі, за ржышча моцна ўзяўшыся, утрымаліся, калі не пусцілі пад сябе вецер"; каторыя пусцілі вецер пад сябе і не ўтрымаліся, тыя «не знаці дзе» і куды іх занесла



Малюнак з кнігі «Тысячагадовы летапіс незвычай-ных з"яў прыроды» М., «Думка»,1988

*...З вады выходзіла гара пясчаная, з сажань уверх, і гэтак стаяла дванаццаць дзён*

**1619** 5 траўня — «у самую квецень» — выпаў снег. «І не магла жывоціна хадзіць у полі з-за снегу й марозу, а сена было дарагое». Моцная бура (11 верасня): «...бардза вялікая, ажно дрэвы ў садах паламала і вежу замкавую ў Брэсце з гадзіннікам у ваду ўкінула і Сапежы двор сцерла»

**1625** Моцная бура, якая «ўзышла... з заходняга боку з Літвы і ў літоўскіх гарадах *(хутчэй за ўсё маюцца на ўвазе беларускія - **рэд.**)* Азярышчах і на Неўлі-горад харомы разносіла да зямлі.» У некаторых паветах бура заняла шырокую паласу і вярсты дзве або тры і больш ішла, ломячы ўсё і не пакідаючы ніводнага дрэва

**1634** Прыканцы ліпеня ўвесь тыдзень ішоў дождж са снегам. Восень вельмі сухая. Сям-там спыніліся вадзяныя млыны

**1643-1644** Зіма лягла 16 лістапада. Затым за суткі вы-пала гэтулькі снегу, што "каню па грудзі было ". Зіма пра-стаяла ў лютым холадзе і працягвалася да 3 красавіка.

## XVII

**1600-1601** Ліхая і снежная зіма. Летам — градабой. Моцная бура, якая «ўзнялася з захаду, з Літоўскай дзяржавы і наламала вельмі шмат лесу, і храмы, і харомы многія крышыла й разносіла ўшчэнт, да падэшвы...»

На возеры Бросна (паводле летапіснай крыніцы, маюцца на ўвазе так званыя «заходнерускія» землі) «з таго возера з вады выходзіла гара пясчаная, з сажань уверх, і стаяла гэтак дванаццаць дзён... А па дванаццаці днях зноў апусцілася... і над ёй стала 7 сажанёў глыбіні, як і было»



**Янка Лучына**
(1851-1897)

Вясна

Кажуць людзі: "Вясна!"—піша так каляндар.
Хто ж пазнае яе, калі сыпле ўсё снег?
Дарма ладзіў саху на той час гаспадар,
Ды і бусел да нас прыляцеў як на смех.
Жураўлі ўжо лятуць з крыкам звонкім ключом,
Кінуў вырай кулік, чайка недзе скігліць,
А ўсё сівер як дуў, дзьме па полю па том,
Гул па лесе ідзе: "Яшчэ летку—не быць!"...

Ёсць асаблівая паэзія ў першых праталінах, асаблівая, калі яны па сваім часе, адвечна чаканыя.







Снежная зіма 1998 пагражала вялікай паводкай, аднак сход снегу ўзяў мяркоўна-павольны тэмп і закон-чыўся толькі прыканцы красавіка.
Лёд на штучным возеры ў ваколіцах Станькава (Мінская вобласць). Красавік,1998
Фота: Валеры Дранчук (АрСтудыя «Краявід»)

Восенню 1644 зноў выпаў незвычайна вялікі снег, які закідаў хаты і ў лесе паламаў дрэвы

**1667** Халоднае лета. 7 ліпеня ў Швейцарыі выпаў снег

**1668** Халодная позняя вясна: «... птахі і скаціна мерзлі»

**1691** Сухое лета: «Вады вельмі мала.» Халодная зіма. Прыканцы сакавіка ўсталявалася спякотнае надвор'е, якое прастаяла вясну і лета. Здараліся навальніцы. Восень гарачая і сухая

**1696** Першы снег выпаў перад Дабравешчаннем, а студзень і люты былі без снегу.

**1699** Мяккая зіма. Вясной нечакана выпаў снег. Дажджлівае надвор'е доўжылася да траўня. Чэрвень і ліпень былі цёплыя. У жніўні зноў задажджыла. А ўвосень сушыла...

# Дзіву дацца...

**Самым буйным айсбергам**, што вядомы вучоным, была арктычная плоская льдзіна даўжынёю 335 кіламетраў і шырынёю 97 км. Яе плошча прыроўненая плошчы Бельгіі.
Айсберг быў заўважаны ў 1956, назіранні за ім вяліся на працягу 17 гадоў.
**Самая аддаленая ад мора** кропка сушы ляжыць у Кітаі. Па прамой лініі ад яе да бліжэйшага мора 2648 кіламетраў.
**Самы высокі** ў свеце вадаспад — У Венесуэле на рацэ Карао. Яго вышыня 979 метраў.
**Самае вільготнае** месца ў свеце — Будукенда ў Калумбіі, дзе выпадае 11770 мм ападкаў у год.
**Самая вялікая лава** ў выніку вывяржэння рушыла з гары Святой Алены (ЗША) 18 мая 1980. Яе аб'ём — 2800 мільёнаў кубічных метраў, хуткасць руху сягала 400 кіламетраў у гадзіну.

***Ад нашага чытача, педагога з Віцебска***
**Кастуся Карнялюка**

**У наступным нумары**

**Легенды возера Свіцязь.**

Вечная крыніца Рымантаса Дыхавічуса.

**За парогам храма. Лясная этыка.**

Заказнік пад прыцэлам меліяратараў.

**Зялёны пікет збірае сяброў.**

Жан Жак Русо і Белавежская пушча — погляд біёграфаў.

**Лупцуй «зялёных, або Хто не чытаў «мафіёзны» артыкул.**

Вечар у Мінскай губерні.

# Быў *вечар*, быў *дзень* і была *раніца*

*З аахенскага нататніка*



На пачатку лета мінулага года ў нямецка-галандскі горад Аахен (Aachen) з'ехаліся еўрапейскія лаўрэаты прэміі Генры Форда ***«За захаванне культурнай спадчыны і навакольнага асяроддзя»-1999*** з 33 краін. Сярод праектаў-пераможцаў быў названы і самы дастойны: атрымальнікам еўрапейскага Гран-пры-99, як вядома, стаў вучоны з Македоніі доктар Хрыстоўскі (пра ягоны бліскучы праект газета распавяла ў №4 за мінулы год). Сума ўзнагароды склала 100 тысяч долараў ЗША. Прадстаўнік фундацыі Генры Форда адзначыў надзвычай высокі наватарскі ўзровень усіх ганараваных праектаў і звязаў гэта з актывізацыяй грамадскай патужнасці на карысць і захаванне прыроднага асяроддзя планеты. На цырымонію ўручэння Гран-пры-99 у горад Аахен быў запрошаны і адзін з 33 еўрапейскіх лаўрэатаў-99, аўтар выдавецкага праекта «Газета «Белавежская пушча» **Валеры Дранчук.** Фінансавала замежную паездку кампанія «Форд Мотар» у Беларусі і Расіі.

***Пасля наведання краіны звычайна пішуць дзённік: дзень першы, дзень другі і г.д. У Аахене я прабыў няпоўныя тры дні; больш дакладна, гэта быў вечар, быў дзень і была раніца трэцяга дня.***

**Вечар.** Пра Аахен я наогул не чуў, пакуль не давялося збірацца ў дарогу.

Першае, што кінулася ў вочы, калі за акном аўто замільгалі квартал за кварталам, — гэта невялікія прыгожыя дамы. Зеляніна павойных раслін. І першае сведчанне гіда-кіроўцы, якое здзівіла дый стала, бадай, найадметнай геаграфічнай памяткай: горад падзяляецца на дзве часткі, адна з якіх — Аахен нямецкі, другая — Аахен Нідэрландаў. Але здзівіла найбольш тое, што пра гэта даводзіць звычайны знак на слупку ўзбоч вуліцы. Не прачытаеш — і ведаць не будзеш, што перайшоў мяжу і трапіў у суседнюю краіну.

Гасцініца «Блюмэнгартэн» («Кветкавы сад») размешчана «ў Нідэрландах», нямецкае візы, аднак, было дастаткова, каб тут пасяліцца. Абжытасць і чысціня. Утульнасць і густ. Больш як два стагоддзі «Кветкавы сад» прымае гасцей горада. У калідорах развешаны архіўныя фотаздымкі, гравюры, афорты. Скрозь — чароўная даўніна. Па куточках расстаўлена старадаўняя мэбля, розныя прыгожыя адметныя рэчы. Дзе вакон-нага святла замала, каб усё гэта як след разглядзець, днём і ўначы запалена мяккая падсветка. Наогул, тут цэлае лямпавае царства, якое нагадвае сад святла. Усё надзіва зграбнае, дапасаванае вокам для іншых вачэй.

З нумара я мог выйсці не адно ў калідор, што зразумела, але і ў «свой» маленькі кветкавы палісаднічак, папіць там за столікам соку ці піва, ахаладзіцца перад сном вечаровым спакоем і свежасцю.



У сценах гэтага старажытнага замка праходзіла цырымонія ўручэння Гран-пры-99 «За захаванне культурнай спадчыны і навакольнага асяроддзя»



Спаць, аднак, не хацелася.

Было ўжо за поўнач, калі вырашыў выйсці ў горад. Святла ставала з рэкламных вітрын і шчытоў, сям-там сустракаліся прахожыя, у барах яшчэ было людна. Ніхто нікуды не спяшаўся. Некаторыя сустрэчныя зычліва праводзілі мяне позіркам, быццам свайго знаёмага, некаторыя нават віталіся. Гэта дапамагала хутчэй асвойтацца ў чужой зямлі, паддавала настрою і ўпэўненасці на заўтрашні дзень.

**Дзень**, панядзелак. Ён пачаўся з той хвіліны, калі я прачнуўся… ад дажджу. Але не, гэта быў зусім іншы дождж. Садоўнік з блакітнага балёнчыка паліваў за акном палісаднік. Сонца ўжо блішчэла ў абмытым лісці, але было зусім невысока. Да сняданку заставалася дзве гадзіны. Я паспяшаўся абысці колькі кварталаў гарадской ускраіны.



Пакуль падымаўся ўгару, адольваючы вулічны пад'ём, заўважыў цікавую дэталь: многія сядзібы агароджаныя плоцікамі, якія мы, беларусы, даўно адправілі ў этнаграфічны музей. Брукаваныя вуліцы хацелася параўнаць з творам графікі, над якім майстар працаваў іголкай. З гары мой позірк «апускаўся» ў лагчыну, дзе раскашавала трава. Калі падышоў бліжэй, зразумеў: гэта плантацыя палявых і лугавых раслін. Вечарам, у гарадскім палацы, дзе на кожным століку стаяў вялізны, раскідзіста-шырокі «ахапак» чэрвеньскай флоры, для мяне не ўзнікла пытання, адкуль гэтае чароўнае багацце красак. Да цырымоніі ўручэння Гран-пры конкурсу на лепшы еўрапейскі культурна-экалагічны праект гэткі букет быў выключна ўдалым рашэннем застольнай часткі ўрачыстасці. Не ўзнікала і сумнення, што назаўтра букеты будуць скарыстаныя з чарговай карысцю, а не трапяць на звычайны гарадскі сметнік.

Тым часам горад толькі прачынаўся. Калі я вяртаўся ў гасцініцу, вулічных спадарожнікаў крыху пабольшала. Імі былі дзве дзяўчынкі, якія некуды вельмі спяшаліся, і некалькі праезджых на роварах.

Што датычыць ровара, я сімвалічна пашкадаваў, як толькі выйшаў у горад, што не ўзяў з дому свайго. Рэч у тым, што Аахен — горад з велатрадыцыямі і адпаведнай структурай праезнай часткі вуліц: для ровара адводзіцца тут метровая стужка вішнёвага колеру.

Дагледжанасць і якасць дарожнага пакрыцця, традыцыйная для заходніх гарадоў, дапаўняецца яшчэ і тым сведчаннем, што заезды і спускі на ўзмежжах «тратуар — праезная частка» вырашаны тэхналагічна бездакорна, без нашай звыклай эканоміі на часе і сродках. Ведаю, наколькі гэтыя «вузельчыкі» зручныя (або нязручныя) пры карыстанні тым жа роварам або дзіцячай каляскай. У нас жа вышыня парогу ў такіх месцах сягае 20-30 сантыметраў (у лепшым выпадку дарожнікі зглаждаюць канец рыдлёўкі раствору; штосьці больш-менш праціглае ўбачыў, калі ў раёне ГУМа беларускай сталіцы пешаходная зона прыбіралася ў новую плітку).

Уважаны лепшым чынам, ровар тут сустрэнеш у краме ці ўтульнай кавярнцы, дзе гаспадар уважыць за лепшае паставіць яго ў зручным куточку. Калі такога куточка няма,



Горад у сэрцы Еўропы больш педалюе, чым цісне на газ легкавіка.




Вулічны знак інфармуе, што вы пераходзіце дзяржаўную мяжу.

пакідае недзе блізка. Я быў вельмі здзіўлены, калі нараніцу пасля ночы ў калідоры гатэля ўбачыў два ровары, прыслоненыя да сцяны. І гэта правільна: стары верны сябар павінен спаць з табой побач. Нават пасярод раскошы апартаментаў. Кінулася на вочы і такая сцэна: пажылы аахенец зайшоў з роварам у гарадскі аўтобус, у якім хапала месца. Кіроўца паставіўся да гэтага з цярплівай увагай: зачыніў дзверы толькі тады, калі пасажыр запэўніўся поўнай бяспекай. «Да ровара з пашанай ставяцца ўсе, — патлумачыў мой новы знаёмы Бернхард, бо гэта той атрыбут жыцця, да якога можна ставіцца больш чым паважліва.» Падумалася: ёсць рэчы, у дачыненнях з якімі цярпімасць можа з часам змяніцца задавальненнем, культам агульнае пашаноты.

(Вярнуўшыся ў Мінск, я амаль натуральна, без комплексаў, заводзіў ровар у любую краму і нават здзівіўся, што ў большасці гэта ўспрымалася калі не з разуменнем, дык неўзаметку, цярпіма ці мо абыякава. Але, як сказаў бы ў такім разе беларускамоўны- мастак Алесь Марачкін,«не абальшчайцесь». І меў бы рацыю. Не забудуся, як ахова «чырвонага дома» на Карла Маркса ў поўным сэнсе арыштавала мой ровар, які я прыпаркаваў да ліхтарнага слупка, а сам забег пагартаць свежую дэмакратычную прэсу ў Нацыянальную бібліятэку. Напалоханая стража спілавала замок, адчапіла крамольны ровар і завяла небараку ў падвал т.зв. Нацыянальнага сходу).

**Раніца** трэцяга дня. Ад'езд праз колькі гадзін па сняданку. Выходжу дазняць запланаваныя кадры на адну з галоўных вуліц, але хутка кідаю гэты занятак і дазваляю сабе бесклапотную праходку на развітанне. У дзяўчыны з роварам дапытваюся, колькі каштаваў яе двухколавы спадарожнік, і яна адказала, што купіла яго



нядаўна на рынку за 80 марак і вельмі задаволеная. За шклянку мясцовай вады разлічваюся гульдэнамі, гэта значыць, я ўжо ў Галандыі.

Дарэчы, Аахен заснаваны на радонавых крыніцах. Каля адной з іх падчас учарашняй экскурсіі з гідам мы мелі магчымасць «асвяжыць страўнік» гэтым гаючым напоем. А ў набытым путаводніку чытаю: «Aachen — die Stadt im Herzen Europas». На жаль, не хапіла часу спытаць у аахенцаў, ці ведаюць яны, дзе ***цэнтр*** Еўропы…

Амаль бягом вяртаюся ў гасцініцу. У кішэні білеты на самалёт, таму прыгоды выключаюцца. Наперадзе зямны шлях у Кёльн, затым ляцім у Варшаву, з Варшавы — на Мінск.

* * *

Дома чакаў гарачы, нават спякотны чэрвень. Калі самалёт прызямліўся, і грудзі ўдыхнулі ***сваё***, захацелася ўбачыць жытнёвую ніву і ўзяць у далоні каласоў, адчуць іх зямное цяпло і прыспяваючую шорсткасць.



Тут, каля гэтай сцяны з напісаным на белай пліце словам EUROPA я падумаў: «Калі родная Беларусь здолее захаваць прыроду і свае біялагічныя багацці — лясы, балоты, азёры, рэкі — такімі, якія яны ёсць сёння, і ўратуе іх ад збяднення і вынішчэння, — ужо *толькі гэтым* яна сцвердзіць сябе як еўрапейская краіна. Аднак гэта мы ўбачым праз 20, мо, праз 30 гадоў».




**Анонс**

Чарговая публікацыя рубрыкі «Замежжа»-- **«Дзённік аднаго падарожжа: на мінскім ровары да суседкі Польшчы».**

Ровар яшчэ на мінскай вуліцы...

Фота: з архіва «Неруш-прэс»









# Захаваць самае лепшае... З таго, *чаго не высякуць?*

*Перспектыва Свіслацка-Бярэзінскага нацыянальнага парка вачамі бабруйскіх актывістаў*



***Удзельнікі экспедыцыі «Дзеці Зямлі» выявілі на тэрыторыі будучага Свіслацка-Бярэзінскага нацыянальнага парка (Асіповіцкі, Клічаўскі раёны) і гідралагічнага заказніка «Выспы Дулебы» шэраг парушэнняў заканадаўства з боку дзяржаўнай лесаахове. Прыродакарыстальнікі, мяркуюць актывісты, не выконваюць артыкул 5 Закона «Аб асабліва ахоўных прыродных тэрыторыях і аб'ектах» , а таксама ўрадаўскую Пастанову №132 ад 13.03.1995 з зацверджаннем Схемы рацыянальнага размяшчэння асабліва ахоўных прыродных тэрыторый. На думку сяброў экспедыцыі, адбываецца разбурэнне прыродных комплексаў названых падахоўных аб'ектаў, у лясгасах не ведаюць і пра ўрадавую пастанову, не кажучы пра яе выкананне. Чаго варты адзін прыклад: на тэрыторыі Брыцалавіцкага лясгаса, акурат на лясных абшарах запраектаванага рэзервата ладзіўся конкурс... лесарубаў.***

***Асабліва ахоўныя прыродныя тэрыторыі павінны стаць рэальна ахоўнымі, ставяць справядлівае патрабаванне «Дзеці зямлі» у сваёй заяве на імя прэзідэнта краіны і генеральнага пракурора.***

***Па матэрыялах экспедыцыі і шматгадовых назіранняў складзены таксама Акт сацыяльна-экалагічнага стану даследванай тэрыторыі. Калектыўную петыцыю сябры прыроды перадалі ў Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.***

***Знаёмім з фрагментамі гэтага дакумента і адзначаем не адно актуальнасць падставы, але і пэўную тэхналогію адстойвання нацыянальных каштоўнасцяў як вартую пераймання.***

Сёння лясы, якія захаваліся на гэтай тэрыторыі, часта мяжуюць з поймамі рэк, ручаямі, балотамі, калгаснымі дзялянкамі. Ацалелі і зусім старыя лясы, якія з экалагічнага боку маюць найбольшую каштоўнасць, бо дасягнулі поўнай спеласці і тым самым сфармавалі вакол сябе багаты раслінна-жывёльны асяродак. Нават без ахоўнага рэжыму тут дапушчальныя толькі выбарачныя і паступовыя высечкі, а ў будучым парку такія лясныя асяродкі павінны стаць абсалютна запаведнымі, так званым прыродаахоўным ядром парка.



Суцэльная высечка ў натуры

Аднак сёння ўжо тут зеўраюць вялікія плошчы высечак, утвараючы суцэльныя бязлесныя зоны плошчай на дзясяткі гектараў, якія, да таго ж, выходзяць на поймы рэк, захопліваюць поймавыя лясы. Пакінутыя выспачкі спелага ды перастойнага лесу адзначаны ўжо прыкметамі заняпаду і дэградуюць, а высечаныя плошчы зарастаюць.

Наогул жа ў Асіповіцкім і Клічаўскім лясгасах найбольш лесу выбіраецца з тых лясніцтваў, дзе праектуецца нацыянальны парк. Разліковая лесасека ў сярэднім па лясніцтве складае 10000 кубічных метраў. Да канца 2002 года ва ўсіх найбольш каштоўных лясах меркаванага парка запланавана правядзенне суцэльных высечак.

… Прарэджванне, праходныя і санітарныя рубкі вядуцца дзеля аднаго — каб атрымаць таварную драўніну… замест хворых ды прыгнечаных дрэў высякаюцца самыя лепшыя.

Ніякай інфармацыі пра стварэнне Свіслацка-Бярэзінскага нацыянальнага парка і рэзерваванне яго тэрыторыі ні лясгасы, ні калгасы, ні сельсаветы не маюць, тут не ведаюць нават, што такое нацыянальны парк і якія задачы ён будзе выконваць; агульны ўзровень ведаў экалогіі можна ацаніць як вельмі нізкі.

… Адзначаны таксама іншыя парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства: свінагадоўчы комплекс на беразе ракі, адкіды з якога цякуць проста ў раку (пас.Свіслач), размяшчэнне адкормачных лагераў для скаціны (в.Кассё); будаўніцтва на беразе ракі, захоп зямлі пад агароды (вёскі Краснае, Галынка), смеццезвалкі ў лясах і на берагах рэк (паўсюль) і інш.

Акт склалі грамадскія інспектары па экалогіі

**Юры Познік і Ігар Куталоўскі**

(грамадская экалагічная станцыя «Ольса», Бабруйск).

***Да акту прыкладзены 53 подпісы ўдзельнікаў экспедыцыі, датаваныя сярэдзінай мінулага лета.***

Маніторынг

## Новы праект праграмы TACIC

**Андрэй Аляксандраў,** Полацк.

З сярэдзіны наступнага года мае быць распачаты буйнамаштабны праект па кіраванні воднай гаспадаркай ракі Заходняя Дзвіна. Пра гэта было абвешчана падчас візіту ў Наваполацк прадстаўнікоў праграмы TACIC Еўрапейскага Саюза (ЕС).

TACIC — праграма, распрацаваная ЕС для так званых Новых Незалежных Дзяржаў — былых рэспублік Савецкага Саюза (за выключэннем краін Балтыі) з мэтай развіцця гарманічных і трывалых эканамічных і палітычных сувязяў паміж ЕС і гэтымі краінамі. За час дзейнасці (з 1991) TACIC дапамагла рэалізаваць тысячы праектаў, на якія выдаткавана некалькі мільярдаў ЭКЮ.

Новы праект датычыць экалагічнага стану Заходняй Дзвіны. Яго сутнасць — усебаковае адсочванне сітуацыі (аўтаманіторынг) галоўнай воднай артэрыі поўначы Беларусі. Спецыялісты праграмы TACIC падрыхтавалі тэхнічнае заданне, на рэалізацыю праекта абвешчаны тэндэр. Адразу 6 буйнейшых еўрапейскіх фірм і кансорцыюмаў выказалі жаданне папрацаваць на Беларусі. Іх кансультанты ўжо наведалі Наваполацк і Віцебск для падрыхтоўкі праектных прапаноў. На выкананне работ, афіцыйным атрымальнікам якіх з'яўляецца Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя і аблкамрыродны, выдаткоўваецца 1,9 мільёнаў еўра.

Дапамогу ў выкананні праекта прапанавалі ўжо спецыялісты ВА «Нафтан», «Палімір», Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Праект па Заходняй Дзвіне будзе першым з праектаў TACIC па рэках Беларусі. На чарзе — Заходні Буг, Нёман, Прыпяць.

На жаль...

## Экалагічныя фразы

**Ад Кастуся Карнялюка,** Віцебск

* Прырода не храм, а майстэрня. На жаль, рамонтная.

* Глядзіш на водную артэрыю і сэрца крывёю абліваецца.

* Мова беларусаў засыхае. Мо, ад таго, што чыстай вады няма дзе напіцца.

* Пасля «грыбных» дажджоў з'явіліся «кіслотныя».

Нерушы

## Яшчэ адна «дрымучая справа»

**Уласная інфармацыя.**

Называючы нацыянальныя паркі агульным здабыткам і месцам людской дасупнасці, адміністрацыя Аляксандра Лукашэнкі дагэтуль не сказала ўцямна, чым здабыткам сталі грошы з мытных бар'ераў.

Як вядома, беларуская практыка грашовых збораў за праезд па асабліва ахоўных прыродных тэрыторыях нядаўна спынена, дзясяткі пастоў зняты. Аднак невядома, куды пайшлі сабраныя грошы. У рэдакцыю выпадкова трапілі звесткі аб памеры збораў у адным з Нацыянальных паркаў, датаваныя 29.09.99 і 5.10.99. Прыводзім сумы выручкі. 29 верасня: ДМ 330, $ 420, расейскія рублі 2370; 5 кастрычніка: ДМ 1888, $ 1285, расейскія рублі 10175.

На падставе гэтых звестак можна ўявіць фінансавыя маштабы аперацыі, а што да прыродаахоўных — дык тут хутчэй «дрымучая» справа. Спробы рэдакцыі штосьці высветліць выніку не далі,аднак мы ахвотна скарыстаемся атрыманымі звесткамі з боку, які, нарэшце, пажадае зрабіць іх даступнымі. Наша цікавасць тлумачыцца проста: сказаць людзям больш праўды пра хцівыя інтарэсы ўлады там, дзе павінна развівацца ашчадна-беражлівае стаўленне да зялёных нерушаў, як гэта прадугледжана ў Законе аб асабліва ахоўных прыродных тэрыторыях і аб'ектах.

Аўтарытэтна

## “Мае месца агрэсіўнае эканамічнае развіццё”

**Цытата.**

“Сённяшняя рэчаіснасць не з'яўляецца спрыяльнай для аховы прыроды: зніжаецца палітычная прыярытэтнасць гэтых праблем, мае месца агрэсіўнае эканамічнае развіццё, адзначаецца агульнае змяншэнне цікавасці да прыроды, прыкметны нізкі ўзровень кантактаў паміж рознымі галінамі эканомікі і прыродаахоўнай дзейнасцю, дый нават паміж самімі абаронцамі прыроды...

Мова прыроды надзвычай багатая, але ў нашы дні на ёй не гавораць і яе не слухаюць. У нашых грамадствах існуюць тры галоўныя спосабы зносінаў: гэта мова заканадаўства, эканомікі і планавання. Аднак, хацелася б спадзявацца, што мудрасць мовы Прыроды змогуць, нарэшце, спасцігнуць яе абаронцы, каб перадаць, хай сабе і няўпэўненым голасам, яе пасланне насельніцтву і палітыкам”.

**Петэр Скабернэ,** старшыня Рады Пан"еўрапейскай і ландшафтнай разнастайнасці. Крыніца: “Бюлетэнь стратэгіі”. Страсбург, 1999




Са сваім старым лагатыпам рэдакцыя не развітваецца, Ён застанецца на адмысловых выпусках рубрыкі «Аутограф»







Гаспадарка

## Аварыі ў Полацку, а перасцярога ўсім

**Андрэй Аляксандраў,** Полацк.

На пачатку года ў Полацку разарваўся гаспадарча-фекальны калектар. Сумесь гарадскіх каналізацыйных сцёкаў і прамысловых адходаў — агулам 11700 кубічных метраў — вылілася ў Заходнюю Дзвіну. Праз тры дні, 11 студзеня гэткі ж інцыдэнт адбыўся ў раёне навапалацкага вытворчага аб'яднання «Нафтан». Парыў трубы адбыўся ў 400 метрах ад прымальнае камеры ачысных збудаванняў ВА «Палімір», на самым беразе ракі Вушачы. Аварыя здарылася а 10-й гадзіне раніцы, гаррайінспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя была паінфармавана толькі праз 5 гадзін. У месцы аварыі знаходзіцца шмат трубаў (калі быць дакладным, 11), якія вядуць да ачысных збудаванняў «Паліміра». Полацкі і Наваполацкі водаканалы доўга не маглі вызначыць, каму з іх належыць парваны калектар. Нараніцу наступнага дня аварыя была ўтаймавана. Аднак праз некаторы час устаўку ў месцы парыву давялося «латаць» ізноў. На гэты час 2319 кубаметраў сцёкаў па рэльефу мясцовасці вылілася ў раку Вушачу.

Прычынай аварыі стала зношанасць калектара, якому ўжо за 30 гадоў. Апроч таго, труба знаходзіцца глыбока і зроблена з жалезабетону, хоць згодна з тэхнічнай дакументацыяй не павінна быць чугуннай.

Летась Полацкі калектар на працягу года рваўся ці не дзесяць разоў. Ад паўтарэння інцыдэнтаў палачане не застрахаваныя і цяпер.

Галерэя

## Нацыянальны пленэр у Пуньках

**Дзедзіч,** «БП»



Язэп Драздовіч. Гальшанскае гарадзішча, 1929

Галерэя «Прырода і фантазія» Рэспубліканскага экалагічнага цэнтра на Макаёнка ў Мінску зладзіла першую мастацкую выставу, прысвечаную легендарнай асобе мройнай Беларусі — Язэпу Драздовічу. Дзве залы годна-ўрачыста ўмясцілі працы сяброў творчай суполкі «Пагоня» — удзельнікаў чарговага нацыянальнага пленэра на радзіме выбітнага творцы ў Пуньках (Дзісеншчына). Пленэр быў зімовы, таму на выставе пераважалі «малюнкі халадоў» (Я.Колас) ды фантазіі зімовага ўлоння, кшталту «каляровых сноў», як на кампазіцыі Міколы Аўчыннікава. Трэба сказаць, што і ўся выстава пакінула ўражанне зачараванасці, «сноў», якія доўга не адпускаюць. Каб хоць трохі адчуць колерна-графічны лад утульных сцен галерэі, спынімся на назвах, якімі ўдала пазначаны працы: «Белы шлях» (Юрасць Піскун), «Самотная бярэзіна», «Балаціна», «Рачулка пад ільдом», «Яшчэ адзін зімовы дзень» (Алесь Марачкін), «Нябесныя бегі», «Прадвесне» (Ягор Батальёнак), «Пунькі ды Артур, дзякуй Богу, жывыя» (Валер Шчасны), «Крыніца», «Млын у Лужках» (Уладзімір Сулкоўскі), «Плот», «Заснежаная хатка» (Ігар Марачкін), «Вечны сон», «Цішыня» (Уладзімір Васюк) і інш.

Нашыя словы!

## Кнігу купяць тыя, хто любіць Беларусь

**Уладзя Ляская,** «БП»

Наконадні ў свет выйшла сціплая з выгляду кніга, якая, аднак, мае стаца бібліяграфічнай рэдкасцю, бо адразу прыглянулася настаўнікам і вучням, літаратарам і журналістам, дый наогул шматлікаму колу руплівцаў-прыродалюбаў. «Жывёльны свет. Тэматычны слоўнік» — такая назва выдання.

Гартаючы старонкі, маеш асалоду ад праўдзівага беларускага слова. Дакладнага і шматфарбнага, літаратурнага і прастамоўнага, рэдкага і гаваркога, ужыванага ў розных кутках Беларусі.




Апроч назваў жывёл, птушак ды іншых жывых істотаў, якія ходзяць, лётаюць, поўзаюць, плаваюць, пададзены багаты лексічны дабор іх прыкмет, характарыстык, дзеянняў, станаў і інш. Усяго ў слоўніку блізка шасці тысяч слоў, узятых з розных крыніц і збораў (пачынаючы, скажам, ад слоўніка І.Насовіча, 1870)

На жаль, выданне выглядае больш на эпізадычнае, чым на серыйнае. А хацелася б чакаць працягу, серыі. Калі верыць прадмове, гэта першы тэматычны слоўнік беларускіх гаворак. А вось пра што сведчыць яго ны наклад — тэма, бадай, на іншы выпадак. Мімаходзь зазначым: гэткага тыражу — 700 асобнікаў — ці хопіць на адзін адміністрацыйны раён Беларусі.



Анекдот

## Смелы верабей

**Ад Кастуся Карнялюка,** Віцебск

— Цяпер ніколі баяцца не буду! — выхваляўся Верабей Шпаку.
— Чаму?
— Пасяліўся ў гняздзе Арла!